„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.
У першым нумары надрукавалі мы поўны тэкст гэтага — на нашу думку — фундаментальнага дакумента, інфармацыі пра істотныя змены ў арганізацыі навучання беларускай мовы як мовы нацыянальнай меншасці, інфармацыі пра падручнікі і выдавецкія планы, сцэнарыі ўрокаў.

„Беларускі настаўнік” будзе выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Карыстайцеся



Аліна ВАЎРАНЮК

Тое, хто мы такія і куды ідзем, залежыць перш-наперш ад нас саміх, нашых здольнасцей, нашай працы і настойлівасці. Але таксама ад таго, адкуль выйшлі і па чыіх слядах ідзем. Грамадства развіваецца тады, калі можа пераймаць досвед і здабыткі ранейшых пакаленняў. Каму гэта лепш ведаць, як не нам — настаўнікам.

Калі ўявіць сабе гісторыю як прамую, на якой дні, месяцы і гады запісваюць чарговыя падзеі, то на жаль, на нашай беларускай лініі шмат разрываў, прабелаў. Наколькі мала вядомая нам нават самая блізкая гісторыя, сведчыць апісанне лёсу Кастуся Сідаровіча, беластачаніна, дзеяча Таварыства беларускай школы яшчэ ў даваенныя гады. Дзякуючы яму зберагліся ўнікальныя тэатральныя дэкарацыі аўтарства Язэпа Драздовіча — істотны след культурнага жыцця беларусаў у Беластоку міжваеннага перыяду. Пра высілкі гайнаўскіх беларусаў, якія не засталіся бясследнымі, расказвае ў нумары шматгадовы настаўнік Васіль Сакоўскі. Гэта тое, так сказаць, адкуль мы выйшлі.

Сваю дарогу вызначаем нашай штодзённай працай. Якую памяць пасля сябе пакінем у нашых сённяшніх вучняў? Гэта залежыць ад нашых ведаў, але таксама і формы іх падачы. Спадзяюся, што сцэнарыі ўрокаў ды іншых заняткаў з моладдзю, якімі ў выданні дзеляцца вопытныя калегі, дапамогуць нам усім у нашай штодзённай працы. Працы, якая безумоўна пакіне свой след. Ці будзе ён настолькі глыбокі, што змогуць ім крочыць наступныя пакаленні — залежыць толькі ад нас. „Беларускі настаўнік" хоча гэтаму спрыяць. Чытайце, карыстайцеся. Поспехаў!

**Аліна ВАЎРАНЮК**

P.S. Заахвочваем да супрацоўніцтва.

# Мы пакінулі свой след



Мікола ВАЎРАНЮК

З **Васілём Сакоўскім**, шматгадовым настаўнікам беларускай мовы, асобай вядомай многім пакаленням жыхароў Гайнаўкі дамаўляюся ў Беларускім музеі.



Васіль САКОЎСКІ

— А дзе ж яшчэ, гэта ж установа нас усіх, — кажа мой субяседнік, які нямала высілкаў уклаў у яго пабудову. — Кастусь Майсеня будаваў яго з думкай, каб служыў усім беларусам. Ну, а мы паводле нашых магчымасцей дапамагалі яму. Бывала, прыйду з класам, разгрузім будматэрыялы ці нешта прыбярэм, а Майсеня кажа: я вам запішу столькі то столькі працагадзін. Ды мне не трэба было ніякіх працагадзін, ні працадзён. Важнае, што рабілася вялікая справа.

**— Мала ўжо ў Гайнаўцы засталося ў жывых тых, хто адгукнуўся на заклік Кастуся Майсені і ўсебакова падтрымліваў яго ў ажыццяўленні ідэі пабудовы музея.**

— Нядаўна памёр мой сябра Аляксей Харкевіч, таксама шматгадовы настаўнік нашага ліцэя. Ён тут многа часу правёў і з класам, і сам. Велічэзную працу ўклаў Мікалай Нікалаюк. Дырэктар нашага ліцэя Аляксандр Іванюк. Так, няма ўжо іх. Як і самога Майсені, які ўсё жыццё аддаў гэтаму музею. Ён жа нічога не нажыўся, не разбагацеў. Жыў у невялічкай кватэры. А музей ёсць і мы можам тут сустрэцца. І добра было б, каб прысвоіць яму імя Кастуся Майсені. Гэта яго ідэя, яго пот і кроў. Ну і мы, колькі маглі, дапамагалі яму. Цешуся, што нашая праца не пайшла дарам.

**— Вы нарадзіліся ў вёсцы Піліпкі на Бельшчыне, у сялянскай сям'і. Вашыя аднагодкі, якія стараліся з дапамогаю навукі выбіцца ў людзі, хацелі стаць вайскоўцамі, інжынерамі, лекарамі. Чаму Вы пайшлі на філалогію, да таго яшчэ беларускую?**

— Гэта не так, што я з дзяцінства марыў пра тое, каб стаць настаўнікам. У ліцэі мне здавалася, што я вельмі люблю мора, якога, дарэчы, я ніколі не бачыў. Таму ў 11-ым класе паслаў заяўку ў марскую школу. Здаў уступныя экзамены на месцы, у Бельску. Прыехала камісія, каб праверыць, хто я такі, ці сям'я надзейная. А тут якраз здарылася такое, што бацьку выкінулі з калгаса, нашага вясковага „Новае жыццё" (я гэта апісаў у кнізе „Гісторыя



У Пасынках на Яна са школьным сябрам Веньямінам Міхалюком з Гароднік.



З бацькам у першыя гады настаўнічання.

маёй мясцовасці"). І нейкі час пазней прыходзіць мне пісьмо: „У вас здароўе ненайлепшае, выбірайце іншую школу".

**— І Вы рашылі стаць філолагам.**

— Не так усё проста. Светлай памяці дырэктар Яраслаў Кастыцэвіч пасля рашэння тае камісіі зразумеў, што мне тут як ненадзейнаму элементу ўсе дарогі перакрытыя. Ён перажываў за лёс усіх сваіх вучняў, а я ж быў яшчэ і з Пасынскага прыхода, дзе доўгія дзесяцігоддзі настаяцелямі былі яго бацька і дзед. Таму параіў: шанцы маеш толькі на захадзе Польшчы. І я выбраў Вышэйшую эканамічную школу ў Познані. Быў 1956 год. Я трапіў у гушчу палітычных падзей, у цэнтр рэвалюцыйных настрояў. А тут яшчэ бацька захварэў. Я вярнуўся дахаты, не правучыўшыся там года. Але і тут сядзець не было ніякага сэнсу. Наш бацька, які ў бежанстве ў Расіі закончыў пяць класаў пачатковай школы, разумеў, што на вёсцы няма ніякай перспектывы і настойваў на навуку дзяцей. Сястра стала медсястрой. А мне зноў давялося пакарыстацца парадай Яраслава Васільевіча, у выніку якой я трапіў на славістыку ў Варшаву.

**— У Варшаву, не ў Мінск?**

— Спачатку ў Варшаву. Там я правучыўся два гады, калі з'явілася магчымасць працягваць навуку ў Савецкім Саюзе. Спачатку я трапіў у Маскву, а затым у Мінск, дзе правёў тры гады.

**— Як Вам яны запомніліся?**

— Я жыў у інтэрнаце на вуліцы Свярдлова, з журналістамі. Умовы жыцця былі нялёгкія. Нават показка такая хадзіла: чым розніцца клоп ад савецкага чалавека? Нічым, бо ў адных і другіх плыве тая самая кроў. Так, у інтэрнаце нават клапы былі. Тым не менш, меў я добрую замежную стыпендыю. Мяне часта як прадстаўніка міжнароднай студэнцкай супольнасці запрашалі на розныя спатканні з ветэранамі, якія часта заканчваліся

застоллем. Памятаю адну такую сустрэчу ў Маладзечне. Мы — студэнты — каляровыя, з усмешкамі і сцішаныя, пашарэлыя ветэраны. Аказалася, ім проста выпіць хацелася і чакалі тосту, каб пачаць бяседу. Ну і мне, паколькі я добра гаварыў па-руску, давялося той тост паднесці.

**— Па-руску?**

— Так. Мінск быў рускамоўны. Слаба было з беларускай мовай, як і сёння. З гэтым я ніколі не змірыўся. Таму не надта ахвотна ішоў на нейкія абмены са школамі ў Беларусі, бо яны там татальна русіфікаваныя.

**— Вы закончылі беларускую ці рускую філалогію?**

— Беларускую з рускай.

**— У 1950-ыя ў Мінску штудзіравала група моладзі з Беласточчыны. Між іншым, настаўнік і журналіст Мікола Гайдук, Базыль Чачуга — пазнейшы прафесар біялогіі ці Сымон Раманчук — сённяшні архіепіскап Лодзінска-Познаньскі. Ці давялося Вам там з імі сустракацца?**

— Не, яны вучыліся раней, яшчэ да мяне. А са мною, памятаю, толькі Марыся Чурак.

**— У якім годзе Вы закончылі вышэйшую адукацыю і дзе пачалі свой настаўніцкі шлях?**

— У 1963 годзе. Адразу патрапіў у Гайнаўскі беларускі ліцэй і працаваў там аж да пенсіі, да 1998 года.

**— Не было нудна так на адным месцы?**

— Абсалютна не. Я вельмі любіў моладзь. Пасля двух гадоў атрымаў свой клас, дык і адказнасць стала большай. А тады прыходзілі ў нашую школу пераважна вясковыя дзяўчаты і хлопцы, з іх падрыхтоўкай было слабавата. І з беларускай мовай па-рознаму бывала. Але нейкіх большых выхаваўчых праблем не памятаю. Ды і адчувалася вялікая падтрымка бацькоў. Бывала, сустракае мяне на вуліцы чалавек і пытае, як там мой Юрэк ці мая Гандзя? Ці хоць паслухмяны/ая? А я думаю, што за Юрэк, што за Гандзя, але адказваю, што добры/ая, стараецца, вучыцца, слухаецца. Вы там, калі што, то карайце яго/яе — кажа бацька ці маці, — урэжце лінійкай па срацы!

**— Даводзілася ажыццяўляць падказкі бацькоў?**

— Бывала, што не вытрымаеш і пацягнеш за вуха.

**— Вы? Не веру. Адзін з найбольш любімых вучнямі настаўнікаў?**

Студэнты-інтэрнацыяналісты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта абмяркоўваюць кубінскі крызіс (1962 г.)





Дырэктар Аляксандр Іванюк прамаўляе на школьнай лінейцы.

— Зразумела, іншым разам трэба было і па галоўцы пагладзіць. Цяпер раскажу непедагагічную — прынамсі з пункту гледжання сённяшняга дня — гісторыю. Быў у мяне вучань родам з Вітава. Выхоўваўся без бацькі. Добры хлопец, але доўга не мог вытрымаць, каб чагосьці не наброяць. Кожны раз бажыўся, што больш не будзе і ўсё роўна нешта да яго чаплялася, як бы насуперак яго жаданням. Ну і гэты хлопец абарваў вінаград возьнаму з суседняй школы — „пяцёркі". Хутка яго вылавілі. Што рабіць? Міліцыяй пахне. Паклікаў я яго ў такі складзік, дзе настаўнікі фізкультуры трымалі свае рэчы. Пытаю яго: Валодзя, як робім, пускаем на афіцыйны ход ці вырашаем па-бацькоўску?



На спартыўнай пляцоўцы ля школы. Першы справа Леанард Кульваноўскі — дырэктар Пачатковай школы № 5, Васіль Сакоўскі, за ім: дырэктар ліцэя Уладзімір Сцепанюк , настаўнік геаграфіі Аляксей Сельвясюк, настаўнік польскай мовы Ян Петручук.

Па-бацькоўску. Узяў я папругу і сапраўды ўрэзаў па срацы, аж яму слёзы набеглі. Выйшаў ён, а там калегі чакаюць, абскочылі яго: і як, як было, што табе сказаў? А ён на тое: ну і к...а моцна ўжарыў! Потым ён стаў працаваць у турме, нават не простым вартаўніком, а нейкім начальнікам. Спаткаліся мы пазней на з'ездзе выпускнікоў, дык я пытаю: Валодзя, калі б са мною што-небудзь здарылася, то магу разлічваць на лепшую камеру? А ён смяецца: не прафесар, лепей туды не пападаць.

**— Гэта адзінкавы інцыдэнт. Я пра Вас чуў выключна добрыя расказы. Ды і сам тое-сёе памятаю, балазе вучыўся па-суседску. Памятаю, напрыклад, што Вы заўсёды былі ў касцюме, пад гальштукам.**

— Такім прыкладам настаўніка заставаўся для мяне цэлае жыццё Яраслаў Касцыцэвіч. Ён дбаў пра форму, падаваўся строгім, але ведаў, што пакуль патрабаваць нешта ад моладзі, трэба ім даць прыклад. Легендарны быў яго „добры дзень", які ён казаў першы, прыпаднімаючы шапку. Цяжка было яго ў гэтым апярэдзіць. Ён перажываў за кожнага свайго вучня і дапамагаў як мог на парозе дарослага жыцця. Я ўжо расказваў як мне дапамог двойчы. Ведаю, што падтрымаў Рыгора Сасну, калі той вырашыў пайсці ў духоўную семінарыю. Такім чынам мы атрымалі

адданага святара і выдатнага гісторыка. Ведаю таксама, што адвёў Янку Тапалянскага — пазнейшага войта Нарваўскай гміны і актыўнага грамадскага дзеяча — ад міліцэйскай школы. Яраслаў Кастыцэвіч заўсёды ганарыўся сваімі вучнямі. Калі мне ў нечым удалося пераняць якасці, дык добра.

**— Школа, у якой Вы працавалі, моцна адрознівалася ад сённяшняга ліцэя. Гэта быў драўляны, цесны будынак...**

— ... барак, папраўдзе. Калі бегла моладзь па калідоры, то ён увесь варушыўся. Цесната...

**— ...якая, з другога боку, стварала сямейную атмасферу.**

— Гэта праўда, нашая школа была як сям'я. Настаўнікі добра жылі адзін з адным. Дружна працавалі, але і ўмелі разам пасвяткаваць. Я неяк так сышоўся з Аляксандрам Іванюком, які два разы быў дырэктарам (у 1968-71 і 1981-91 г.г. — М.В.), добра мы разумелі адзін аднаго. Таксама з Алёшам Харкевічам, які вучыў вайсковай падрыхтоўцы і быў апекуном шмат якіх пазаўрочных гурткоў. Дружыў я і з Алёшам Сельвесюком — настаўнікам геаграфіі, Зінай і Янкам Петручукамі, якія вучылі гісторыі і польскай мове і з іншымі. У нас, што незвычайнае для іншых школ, было больш мужчын настаўнікаў чым жанчын настаўніц. Можа гэта ўплывала на дысцыпліну ў школе, на тое, што лепш утаймоўвалі мы моладзь. Ды і самі вучні з году ў год бачылі карысці з навукі, падцягваліся да тых лепшых. Часта так бывала, што тыя горшыя дзякуючы працы дабіваліся ў жыцці большых поспехаў. Аднак, з другога боку, тое што школа была невялікая, моцна нас абмяжоўвала. Мы не маглі набраць у адзін год больш за два класы. Не мелі гімнастычнай ні актавай залы. Калі ў Гайнаўку прыязджалі якія



Са сваім класам (выпускны 1984 г.)

госці — пісьменнікі, музыкі ці акцёры — і планавалася сустрэча з моладдзю, то заўсёды вялі іх у суседні польскі ліцэй, бо ў нас не было дзеля гэтага ўмоў. Было крыўдна.

**— Цяжка ў гэта сёння паверыць. Беларускі ліцэй мае найлепшую ў горадзе дыдактычную базу, найбольшую гімнастычную залу і зусім побач — гарадскі басейн. Вам яшчэ давялося папрацаваць у новым будынку?**

— Так. Я выйшаў на пенсію ў 1998 годзе, а мы перабраліся ў новы будынак у 1993-ім. Тут былі ўжо зусім іншыя ўмовы. І галоўнае, мы змаглі набіраць нашмат больш вучняў. Аказалася, што жадаючых паступіць у нашую школу — вельмі многа. І памянялася сацыяльнае паходжанне нашых вучняў. Былі ўжо гэта не сялянскія дзеці і нават не рабочых, а ўсё больш інтэлігенцкія і так сказаць, гайнаўскага істэблішменту. Яны самаўпэўненыя, адважныя, не баяцца выйсці на сцэну ні абараняць свае пазіцыі ў жыцці. Адным словам, стала прэстыжна вучыцца ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Памяняліся таксама настаўнікі. У вялікай частцы сталі імі нашыя выпускнікі, выдатна падрыхтаваныя да працы, пасля добрых вышэйшых навучальных устаноў. Прыкладам тут хаця б сённяшні дырэктар Яўген Сачко. Я ганаруся і цяперашняй школай, і настаўнікамі, і вучнямі.

**— Часам туды заходзіце?**

— Так, бываю. Заўсёды мяне там сардэчна прымаюць, запрашаюць на розныя ўрачыстасці. Адчуваю што, нягледзячы на змены, гэта засталася мая школа.

**— А чым штодзень займаецца настаўнік пенсіянер у Гайнаўцы?**

— Якраз Гайнаўка, лічу, вельмі добрае месца для пенсіянера. Мы, напрыклад, з жонкай цэлае лета па пушчы на роварах ездзім. Ёсць дзе на шпацыры хадзіць. Ёсць свая царква. Адно змены ў нашым рэгіёне насцярожваюць. Вёскі апусцелі. Селяцца ў іх прыезджыя людзі, чужыя, абыякавыя да нашай культуры, якія не гавораць на нашай мове. Гэта, канешне, мне не можа падабацца.

**— Памятаю колішнюю размову ў асяроддзі гайнаўскіх беларускіх дзеячаў, не ведаю, ці Вы ў ёй удзельнічалі. Магчыма, я быў яшчэ ліцэістам, калі гэтае пачуў ад старэйшых: ведаеце хлопцы, што нас аб'ядноўвае?**

Стары будынак ліцэя. На яго фоне дырэктар (1957-1968) Анастасія Тропак.





Педагагічная рада ў новым школьным будынку.

**Ніхто з нас не зрабіў кар'еры. Дык ці не шкадуеце, што Вы на цэлае жыццё звязаліся з Гайнаўкай, што не зрабілі кар'еры?**

— Калі я гляджу на сваё жыццё, а я ўжо ў такім узросце, што пара падводзіць вынікі, то бачу больш такіх момантаў, калі я мог праваліцца, а не праваліўся. І за гэтае дзякую Богу. А кар'ера? Я пра тое не думаю і не шкадую таго, чаго не было. Прапанавалі мне, напрыклад, выкладаць рускую мову ў Варшаўскім універсітэце, але ці чакала б мяне там кар'ера? Я сябе добра адчуваў у Гайнаўцы, у школе з моладдзю, стварыў шчаслівую сям'ю. Пражыў жыццё і хіба няма чагосьці такога за спіною, чаго трэба моцна саромецца. А з другога боку мне здаецца, што мы з калегамі, якіх вы ўзгадалі, пакінулі пасля сябе нейкі след. Штосьці зрабілі для горада, для нашай беларускай грамадскасці. Нядаўна ўнук мне сказаў: дзеду, абяцай, што яшчэ пажывеш прынамсі шэсць гадоў. А чаму якраз столькі? Бо тады я змагу з табой выпіць чарку. Ну што было рабіць? Я яму паабяцаў. Як бачыце, ёсць яшчэ адна мэта ў жыцці.

**— Ну так, падвесці ўнука не можна. Дзякую за размову і жадаю моцнага здароўя.**

**P.S.**

Мне хутка стукне васьмідзясятка. А гэта ўжо сур'ёзны ўзрост. І апошні этап у зямным жыцці чалавека. Пажылым людзям часта задаюць пытанні тыпу: што думаеш пра сваё пражытае жыццё; пра свае жыццёвыя плюсы ды мінусы; ці шкадуеш чагосьці нявыкарыстанага табой ці абмінуўшага цябе...?

Скажу адкрыта і шчыра: калі чагосьці крыху і шкадую, то напэўна не таго, што — як кажуць — кар'еры не зрабіў і багацця не нажыў. Да лямпачкі ўсё гэта. А па-царкоўнаму кажуць — „суета" гэта і толькі.

Да жыцця свайго я прэтэнзій не маю. Меў вельмі добрых і разумных бацькоў. Пражылі яны доўгае жыццё і ўвесь час я быў у вялікай любові і дружбе з імі. Падобна складваюцца мае адносіны і з сёстрамі. На жонку сваю таксама не наракаю.

Жывём мы даволі ціха і згодна. Нажылі двое дзетак. Выгадавалі іх, вывучылі і знаходзімся ў сталых сямейных кантактах з імі. Маем трое ўнукаў і адносіны ў мяне з імі вельмі блізкія, кампанейскія, хоць і не жывем разам. Ад маёй унучкі, напрыклад, усё яе прадшколле даведалася, што найсмачнейшую гарбату рыхтуе яе дзед. А ўнучак прасіў мяне, каб я абавязкова дажыў да яго паўналецця, бо ён хоча выпіць са мной. Фундаваць будзе ён...

Усё сваё працоўнае жыццё стараўся я не зрабіць нікому незаслужанага імі свінства. І хочацца верыць, што мне ўдалося гэта. Сваю работу я любіў і працаваў 35 гадоў на адным месцы. Чаго ж мне яшчэ хацець? Можа толькі таго, каб дажыць сваё жыццё пры ўласных сілах, на ўласныя сродкі і пры здаровым розуме...

А калі ўжо думаю пра мінулае, то ў асноўным пра тое, як, дзякуй Богу і майму нябеснаму патрону-заступніку, удалося мне пераадолець ці абмінуць тыя перашкоды, якія ставіла жыццё перад маім нялёгкім пакаленнем. І не збіцца з правільнай дарогі.

**Васіль Сакоўскі**

*Здымкі з архіва Васіля Сакоўскага*

# Кастусь Сідаровіч

## — УСЁ ЖЫЦЦЁ СПЯВАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ



Яўген МІРАНОВІЧ

Вельмі мала ў XX стагоддзі было беларускіх дзеячаў на Беласточчыне, пра якіх можна было б сказаць, што ўсё сваё жыццё, нягледзячы на палітычныя ўмовы, прысвяцілі ўсхваленню роднае музыкі, мовы і культуры. Імя Кастуся Сідаровіча можна сустрэць ва ўсялякіх дакументах дзяржаўнай адміністрацыі перыяду санацыі, нямецкай акупацыі і Народнай Польшчы. Можна там прачытаць, што супраць волі ўлад стварaў ён у Беластоку беларускія тэатральныя, танцавальныя, ці песенныя калектывы. Сам у іх выступаў акцёрам і харыстам. Кожная ўлада ўспрымала яго дзейнасць як праяву беларускага нацыяналізму.

Кастусь Сідаровіч нарадзіўся ў 1906 годзе ў Беластоку, у сям'і непісьменнага рабочага. Пры царскай Расіі пачаў вучыцца ў пачатковай прыхадской школе. Настаўнікі пераконвалі тады вучняў, што ўсе вернікі Праваслаўнай царквы з'яўляюцца „сапраўдным рускім народам". Неўзабаве пачалася вайна і Кастусь Сідаровіч разам з бацькамі апынуўся ў бежанстве ва ўсходняй Украіне. У новай школе, дзе працягваў навуку, дзевяцігадовага хлопца называлі палякам, хаця гаварыў ён толькі на рускай мове. У Беласток вярнуўся ў 1922 годзе шаснаццацігадовым хлапчуком. Тады тут была ўжо новая дзяржава — Польшча.

Малады Кастусь адразу зразумеў, што каб неяк пераважыць у новых палітычных умовах, трэба вывучыць дзяржаўную мову. Як пісаў у сваіх успамінах (*Лёс аднаго пакалення*, Беласток 1996) у горадзе не было працы, затое шмат свабоднага часу. У 1923 годзе трапіў ён разам з калегамі ў будынак Акругавага суда, дзе праходзіў працэс 45 беларускіх патрыётаў, якія змагаліся за нацыянальныя і палітычныя правы беларусаў. Быў сведкам выказванняў абвінавачаных і тады ўпершыню зразумеў, што з'яўляецца сынам народа, якому „брацкія народы" чамусьці адмаўлялі права на існаванне.

Калі ўзнікла Беларуская сялянска-работніцкая грамада, Сідаровіч прымаў удзел у падрыхтоўцы ваяводскага з'езда партыі ў жніўні 1926 года. Назіраў тады як паліцыя, дзяржаўная адміністрацыя і баевікі Польскай сацыялістычнай партыі імкнуліся справакаваць канфлікт з дэлегатамі і не дапусціць да завяршэння з'езда легальнай арганізацыі. Грамада навучыла такіх людзей як Сідаровіч змагання за сваё ў самых неспрыяльных умовах. Неўзабаве беларускую партыю забаранілі, а яе кіраўнікоў пасадзілі ў турму.

Беластоцкія дзеячы Грамады адразу пасля разгрому партыі заснавалі гаспадарчы кааператыў „Сяўба", які меў займацца выдавецкай дзейнасцю, продажам беларускіх кніжак і часопісаў. Кааператыў аднак не быў зарэгістраваны, а яго маёмасць па загадзе суда канфіскавала паліцыя. Напісалі, што яго існаванне пагражала дзяржаўнай бяспецы.

Калі не пашанцавала разгарнуць гаспадарчую дзейнасць, Сідаровіч разам з сябрамі Язэпам Грыгарчуком, Васілём Лукашыкам, Язэпам Конкалем стварылі ў Беластоку аддзел Таварыства беларускай школы. Статут гэтай арганізацыі, сядзіба цэнтральных улад якой была ў Вільні, прадбачваў таксама шырокую

культурную дзейнасць. У будынку старой фабрыкі сябры ТБШ адрамантавалі памяшканні, у якіх праводзіліся рэпетыцыі хору і драматычнага гуртка. Паліцэйскія правакатары і чыноўнікі перашкаджалі ўсялякімі спосабамі ў дзейнасці арганізацыі. Забаранілі карыстацца памяшканнямі фабрыкі, аргументуючы, што не было там адпаведных санітарных умоў. Беластоцкі аддзел ТБШ ператрываў дзякуючы ахвярнасці такіх дзеячаў як Кастусь Сідаровіч. Быў ён сакратаром Таварыства. Хор і тэатр, якія дзейнічалі ў структурах арганізацыі, пастаянна гасцявалі ў вёсках Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага паветаў. Сідаровіч спяваў у хоры і выступаў у п'есах, пастаўленых тэатрам.

Нягледзячы на адміністрацыйныя перашкоды і пастаянны недахоп грошай на арэнду памяшкання і астатнія выдаткі, беластоцкі аддзел ТБШ бесперашкодна дзейнічаў да 1932 года, пакуль у яго радах не пачалі дзейнічаць агенты Камінтэрна. Сідаровіч хутка прыйшоў да вываду, што членства камуністаў у арганізацыі прывядзе да яе ліквідацыі і прапанаваў рашуча з імі развітацца. Іншыя сябры кіраўніцтва ТБШ былі менш асцярожнымі. Сідаровіч у канцы 1932 года адрокся ад усіх функцый і членства ў Таварыстве. Неўзабаве, на хвалі змагання з беларускім рухам, паліцыя прад'явіла ТБШ шмат абвінавачанняў палітычнага характару. Павятовае гарадское староства спачатку забараніла дзейнасць ТБШ, а фармальна арганізацыя была ліквідавана ў 1935 годзе пад маркай прыхільнасці некаторых членаў да камуністычнай ідэалогіі.

У 1937 годзе Кастусь Сідаровіч і Васіль Лукашык з групай 17 сяброў рэгістравалі ў Акруговым судзе ў Беластоку кааператыў Аб'яднанне працаўнікоў беларускага тэатра „Полымя". У статуце было напісана, што кааператыў ствараецца як установа, якая мела даць прыбытковую работу працаўнікам і дзеля папулярызацыі беларускай культуры на Беласточчыне. Неўзабаве паліцыя сабрала дакладную інфармацыю пра сяброў аб'яднання і паінфармавала ваяводскія ўлады, што ўсе яны раней былі членамі распушчаных беларускіх выдавецкіх, культурных і асветных арганізацый. Грамадска-палітычны аддзел Ваяводскай управы забараніў старастам даваць супрацоўнікам кааператыва „Полымя" згоду ставіць п'есы ў якой-небудзь мясцовасці на тэрыторыі ваяводства. Сідаровіч і Лукашык ад імя легальна існу-

Кастусь Сідаровіч (другі злева)



ючай установы пісалі ваяводу і старастам прашэнні на атрыманне канцэсіі. Аднак станоўчага адказу ніколі не атрымалі.

Магчымасць весці культурную беларускую дзейнасць у Беластоку з'явілася ў час нямецкай акупацыі. У горадзе быў заснаваны Беларускі камітэт, якому акупацыйныя ўлады дазволілі арганізаваць хор і аркестр. Сідаровіч спяваў у хоры, за што ў канцы саракавых гадоў быў арыштаваны органамі польскай камуністычнай бяспекі. Аднак зараз пасля вызвалення Беластока Чырвонай Арміяй у ліпені 1944 года выступіў з сябрамі да ўлад Народнай Польшчы пра дазвол арганізаваць Тэатральна-музычны калектыў „Полымя". Такую згоду беларускія дзеячы атрымалі. У калектыве сабралася каля трыццаці музыкаў і акцёраў. Большасць з іх прыехала з Вільні і толькі часова затрымалася ў Беластоку. Да канца 1944 года члены калектыву „Полымя" далі некалькі канцэртаў у Беластоку і Бельску-Падляшскім. У 1945 годзе нацыянальная палітыка ўлад Народнай Польшчы пачала мяняцца і не стала ўжо месца на беларускую культурную дзейнасць.

Такія магчымасці ўзніклі ў 1956 годзе разам з Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Сідаровіч, якога камуністы некалькі месяцаў трымалі ў турме як беларускага нацыяналіста, не мог выкарыстаць свайго вопыту ў арганізацыі беларускага культурнага жыцця. Для народнай улады быў ён не менш падазроным чым для санацыйнай. Паказаўся аднак як намеснік старшыні гаспадарчага кааператыва „Бэтэска", які ў 1958 годзе быў створаны пры БГКТ. Беларускі кааператыў, як адзіны сярод тых, якімі распараджаліся меншасныя таварыствы ў Польшчы, праводзіў прыбытковую дзейнасць.

Сідаровіч знаходзіўся пад пастаянным наглядам канфідэнтаў бяспекі. Адзін з іх, выступаючы пад псеўданімам „Кастусь", інфармаваў пра карэспандэнцыю Сідаровіча з яго даваенным сябрам Васілём Лукашыкам, пражываючым у Швецыі, ды іншымі беларускімі дзеячамі, што апынуліся на эміграцыі. Афіцэры бяспекі распараджаліся зместам гэтай перапіскі. З рапартаў інфарматара бяспекі вынікае, што Кастусь Сідаровіч дадумоўваўся, што знаходзіцца пад пастаянным наглядам, але не падазраваў, якую ролю выконваюць яго новыя сябры, дзеячы і стваральнікі беларускга жыцця на Беласточчыне па рэкамендацыі Польскай аб'яднанай рабочай партыі.





На фатаграфіях Мацея Халадоўскага дэкарацыі, якія для тэатральнага гуртка Таварыства беларускай школы ў Беластоку намаляў у 1930-ыя гады Язэп Драздовіч. Кастусь Сідаровіч захаваў іх і пасля 1956 года перадаў Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству. У 2015 годзе ад БГКТ адкупіў іх Акруговы музей у Беластоку.



З Сідаровічам я пазнаёміўся ў васьмідзясятыя гады, шукаючы звестак пра беларускае культурнае жыццё Беласточчыны ў міжваенны перыяд. Яго аповеды пра змаганне невялікай групы беларусаў Беластока за права карыстацца сваёй мовай і культурай паказвалі пастаянны і той жа самы лёс людзей, якія не хацелі падпарадкавацца накінутым асіміляцыйным працэсам. Быў гэта, як мне здалося, так натуральны вобраз нашай мінуўшчыны, што запрапанаваў я тады спадару Кастусю напісаць успаміны. Аднекваўся, гаварыў, што не мае часу, не мае літаратурнага таленту. Хаця набліжалася яму 80 гадоў, усё яшчэ працаваў рамеснікам і рамантаваў гадзіннікі. У кожную нядзелю спяваў у царкоўным хоры. Удалося мне яго пераканаць, каб не пакідаў сваіх ведаў толькі сабе, аргументуючы, што калі мы самі не раскажам сваёй гісторыі, зробяць гэта за нас іншыя. Кастусь Сідаровіч як мала хто ўсведамляў сабе як будзе выглядаць гісторыя Беластока, калі напішуць яе без удзелу беларусаў.

Першую частку сваіх успамінаў закончыў ён у 1988 годзе. Былі яны надрукаваныя ў „Беларускім календары" на 1990 год. Гэта быў расказ не толькі пра самога сябе, але больш пра людзей і эпоху. Пісаў і наступныя фрагменты сваёй аўтабіяграфіі. Не хацеў публікаваць іх у адрэзках. Калі апошні раз мы сустрэліся, сказаў, што канчае, але ўсё яшчэ правярае некаторыя факты і выпраўляе памылкі. Калі нечакана адышоў у вечнасць, не ўдалося мне даведацца, дзе прапалі яго запіскі, а было там многа — як гаварыў — пра перыяд вайны і Народнай Польшчы. Хацелася б, каб не атрымалася так, што трапілі яны ў сметнік. Сідаровіч не быў звычайным сведкам гісторыі. Найважнейшае аднак, што як адзін з нешматлікіх беларускіх дзеячаў, мог сумленна аб усім расказаць.

# Мультымедыйныя прэзентацыі



Ян КАРЧЭЎСКІ

Шаноўныя калегі, разам з гэтым нумарам «Беларускага настаўніка» атрымліваеце набор мультымедыйных прэзнтацый, якія знаходзяцца на сайце Аб'яднання АБ-БА.

Можаце іх укючыць непасрэдна і карыстацца, а таксама спампаваць на дыск ці флэшку.

**(Алфавіт)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Alfavit.ppsx

**(Беларусы ў II Рэчы Паспалітай)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Belarusy_u_II_Reczypospolitaj.ppsx

**(Францыск Скарына)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Francysk_Skaryna.ppsx

**(Калядны перыяд)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Kaladny_peryjad.ppsx

**(Літаб'яднанне «Белавежа»)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Litabj_Belaveza.ppsx

**(Нашаніўскі перыяд)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Naszaniuski_peryjad.ppsx

**(Ветлівыя формы)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Vetlivyja_formy.ppsx

**(Жыццё і творчасць Якуба Коласа — віктарына)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Zyccio_i_tworczasc_Jakuba_Kolasa.ppsx

**(Беларускія арганізацыі ў Польшчы)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Belaruskiya_arhanizacyi_u_Polszczy.ppsx

**(Час)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Czas.ppsx

**(Янка Купала — віктарына)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Janka_Kupala_viktaryna.ppsx

**(Купальскі абрад)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Kupalski_abrad.ppsx

**(Матура белліцэіста)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Matura_belliceista.ppsx

**(Уладзімір Караткевіч)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Uladzimir_Karatkievich.ppsx

**(Віктарына па творах Якуба Коласа)** https://dl.dropboxusercontent.com/u/32549694/Bielaruski_Nastaunik/prezentacje_BN_1_2016/Viktaryna_Jakuba_Kolasa.ppsx

Шматлікія публікацыі паказваюць, што рашучую большасць сярод навучэнцаў складаюць тыя, у якіх найлепшая зрокавая памяць. Калі яшчэ ўлічыць тое, што сённяшніх дзяцей і моладзь часта называюць «малюнкавым пакаленнем», дык мы павінны выходзіць насупраць гэтым патрабаванням. Адной з такіх, здаецца даволі цікавых формаў, з'яўляюцца мултымедыйныя прэзентацыі.

У вышэйзгаданым наборы знаходзяцца разнастайныя распрацоўкі. Гэта сам настаўнік вырашыць як такімі матэрыяламі пакарыстацца на ўроку. Справа ў тым, што адны з іх апрацаваныя даволі дэталёва, іншыя патрабуюць нейкай большай ангажаванасці вядучага заняткі. Рэкамендуецца таксама актывізаваць вучняў. Сярод прэзентацый ёсць некалькі віктарын, найбольш прыдатных ў час замацавання і паўтарэння ведаў па літаратуры. Тут добра прымяніць форму працы ў групах.

Слова «мультымедыі», як вядома, абазначае спалучэнне некалькіх формаў пераказу інфарамацый. Такім чынам у некаторых прэзентацыях, побач тэксту і карцінак, выступае анімацыя, гук, фільм.

Я лічу, што прапанаваны матэрыял аднолькава добра можна выкарыстаць на кожным этапе навучання — як з дашкольнікамі, вучнямі пачатковых, гімназічных, звышгімназічных школ, так і са студэнтамі беларускай філалогіі.

# ЛЕКСІКА ДА ПІСЬМОВЫХ ПРАЦ

## Як развіваць мову вучняў?

Вельмі добра мову нашых вучняў развіваюць пісьмовыя працы, якія яны самі ствараюць. Калі самому трэба нешта напісаць і пісаць пра тое, што цікавіць... гэтая выклікае эмоцыі і вельмі добра, таму што веды, якія здабываюцца ў такі спосаб, западаюць глыбей у памяць і пашыраюць умеласці ў валоданні мовай.

Каб дапамагчы вучням справіцца з гэтым заданнем, варта падрыхтаваць лексіку і моўныя канструкцыі. Для прыкладу тут маем тэмы, якія могуць зацікавіць гімназістаў. Добра, калі могуць пісаць на картцы, дзе побач знаходзіцца патрэбная лексіка.



Іаланта ГРЫГАРУК

## Мой свабодны час

Я люблю адпачываць . . .

У мяне мала свабоднага часу, таму што . . . маю многа ўрокаў; трэба рабіць хатнія заданні . . . ; наводзіць парадак у хаце; дапамагаць бацькам . . .

Мне цікава праводзіць час: у хаце; сярод сяброў і сябровак; на сустрэчах з . . .

Я захапляюся . . . музыкай . . . ; фільмам . . . ; камп'ютарнымі гульнямі . . .

У вольны час я . . . рысую; малюю; пішу . . .

Асабліва добра сябе адчуваю, калі . . . ляжу; сплю; чытаю; пішу дзённік; наведваю інтэрнэтныя старонкі; размаўляю з сябрамі; куплю сабе нешта прыгожае; размаўляю з бацькамі . . .

Паводле мяне, найлепшы час . . . гэта свабодны час; час адпачынку; час калі магу адпачываць . . .

Мае бацькі часта наракаюць, што я губляю час . . . таму, што не вучуся; . . . не працую; . . . не рыхтую ўрокаў; . . . сяджу доўга пры камп'ютары.

Думаю, што ў мяне . . . мала свабоднага часу/ многа свабоднага часу

На жаль у мяне мала . . .

Шкада, што ў мяне так мала . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## Маё любімае месца на зямлі

Маім любімым месцам на зямлі з'яўляецца . . .

Мая школа, гэта амаль другі дом, таму што тут я праводжу . . . многа часу (некалькі гадзін) кожны дзень.

Я люблю прабываць у . . .

Мой родны дом — гэта . . .

Люблю пабываць у маёй бабулі . . .

У маім пакоі я . . . (адпачываю; чытаю кнігі; пішу да сяброў; іграю ў камп'ютарныя гульні; спяваю; пішу; рыхтую ўрокі; сплю; ляжу; размаўляю з мамай, бацькам)

Ніколі не забуду канікулаў, на якіх я пабываў (пабывала) у горах; на азёрах; на моры; у сям'і; у сяброў; далёка адсюль)

Я хацеў бы (хацела б) паехаць ...

Паводле мяне ...

Я думаю, што ...

Ніколі не забуду ...

На мой погляд найпрыгажэйшым месцам з'яўляецца ...

Заўсёды буду любіць ...

Ніколі не забуду аб ..., пра ...

........................................................................................................................................

........................................................................................................................................

# Чым для мяне з'яўляецца каханне?

Каханне ... Гэта самае светлае пачуццё, што існуе на свеце. Яно дапамагае людзям жыць, дае ім моцы ў пераадоленні жыццёвых нягод і цяжкасцей, упрыгожвае наша жыццё, робіць яго непаўторным, featuresрознакаляровым, яркім, цікавым, багатым і г.д. Пералік „якасцей" кахання можна і магчыма рабіць бясконца, бо яно, сапраўды, з'яўляецца адным са значных і каштоўных чалавечых пачуццяў.

Каханне апісвалі, апявалі, апавядалі аб ім у сваіх творах многія мастакі слова, імкнучыся праз літаратурнае слова данесці да чытача ўсю значнасць і прыгажосць у нашым жыцці кахання, як неад'емнай часткі сэрца і душы кожнага чалавека.

Сапраўды, тэма кахання займае значнае месца ў літаратуры на розных этапах яе развіцця. Але патрэбна адзначыць, што тэма кахання па-рознаму „трактуецца" мастакамі слова ў беларускай літаратуры розных стагоддзяў, па-рознаму бачаць гэта пачуццё пісьменнікі, паэты і драматургі, па-рознаму ўспрымаюць гэта пачуццё.

Каханне паводле мяне, гэта ...

Я думаю, што любоў ...

У маім жыцці яшчэ не было кахання ... (не выступіла) ...

Захапленне іншай асобай ...

Я мару аб сапраўдным каханні ...

Я веру ў праўдзівае (глыбокае) каханне ...

Я лічу, што існуе каханне з першага погляду ...

Паводле мяне каханне ... не існуе ( гэта зусім непатрэбнае пачуццё)

Я нічога пра каханне не ведаю ...

Лепш не быць ніколі закаханым, таму што ...

Ніколі не забуду маёй каханай (майго каханага) ...

Для мяне (імя) ..., гэта самы дарагі ( любімы) чалавек

........................................................................................................................................

........................................................................................................................................

I КЛАС ГІМНАЗІІ **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: МЫ І НАШАЯ ШКОЛА



Анна КАЛІНОЎСКАЯ

## МЭТЫ ЎРОКА:

**Вучань:**
- умее карыстацца слоўнікам,
- запісвае ў сшытку словы пра школу,
- адгадвае загадкі,
- піша кароткае сачыненне на тэму школы.

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ НА ЎРОКУ:** практычная, мазгавы штурм, гутарка.

## ХОД УРОКА:

1. Аргмомант, праверка прысутнасці.
2. Прыгаданне ведаў з апошняга ўрока — адказ вучня (ацэнка).
3. Уводзіны ў новую тэму: настаўніца задае вучням загадкі.

- **Не куст, а з лісточкамі; не кашуля, а сшыта; не чалавек, а расказвае.** (кніжка)
- **Ляжыць паленца, а ў сярэдзіне сэрца.** (аловак)
- **Зямля белая, насенне чорнае: пяцёра аруць, двое сочаць, адзін кіруе.** (папера, літары, пальцы, вочы, чалавек)

4. Запісанне даты і тэмы на дошцы.
5. Вучні самастойна карыстаюцца польска-беларускімі слоўнікамі, знойдзеныя словы звязаныя з тэмай „Мы і нашая школа" запісваюць на дошцы і ў сшытках.
6. Гутарка з вучнямі на тэму школы.

   — Як гучыць поўная назва нашай школы?
   — Дзе знаходзіцца школа?
   — Як выглядае будынак школы?
   — Што ў школе змяшчаецца?
   — Якая спецыфіка нашай школы?

7. Настаўнік напамінае вучням, што ў беларускай мове гаворым:
   **Вучыцца чаму? — матэматыцы, фізіцы, беларускай мове, французскай мове, інфарматыцы, ігд.**
8. Вучні, выкарыстоўваючы запісаныя словы і словазлучэнні, супольна пішуць кароткае сачыненне на тэму: „Мы і нашая школа".
9. Вучні адказваюць на пытанне: Што вам падабаецца ў вашай школе, а што не падабаецца?

**Сцэнарыі ўрокаў**

I КЛАС ГІМНАЗІІ (2 гадзіны)

# Тэма: СТЫЛІ МОВЫ І ІХ ХАРАКТАРЫСТЫКА



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Вучань**

- паглыбляе веды пра стылі маўлення;
- развівае ўменні адрозніваць тэксты розных стыляў,
- умее абгрунтаваць прыналежнасць тэксту да пэўнага стылю,
- выяўляе асаблівасці ўжывання моўных сродкаў;
- стварае ўласныя тэксты розных стыляў;
- развівае камунікатыўныя здольнасці;
- набывае культуру маўлення і пашану да роднага слова.

**ТЫП УРОКА:** тлумачэнне новага матэрыялу

**ФОРМА ПРАЦЫ:** індывідуальная, калектыўная, праца ў групах

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** падручнік ***Практычная беларуская граматыка***, карткі з практычнымі заданнямі для груп і прыкладнай схемай стылістычнага аналізу тэксту, нумар тыднёвіка ***Ніва***.

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Праверка дамашняга задання**

**III. Паўтарэнне вывучанага**

**Н а с т а ў н і к:**

— Давайце прыгадаем, што такое тэкст?

(Тэкст — гэта структурна і сэнсава закончанае пісьмовае ці вуснае выказванне; спалучэнне двух і больш сказаў, аб’яднаных сэнсава (тэмай) і граматычна).

— Назавіце прыметы тэксту.

(Сэнсавая цэласнасць, падзельнасць, паслядоўнасць і лагічнасць, стылёвае адзінства)

**IV. Тлумачэнне новага матэрыялу**

**Н а с т а ў н і к:**

— Маўленчую дзейнасць людзей пэўнай нацыянальнасці абслугоўвае іх мова. Аднак у кожнай сферы (напрыклад: у навуцы, мастацтве, палітыцы, побыце) мова выкарыстоўваецца па-рознаму. Так сфармаваліся моўныя разнавіднасці, якія прынята называць стылямі. І як вы ўжо ўзгадалі, менавіта стылёвае адзінства ёсць адной з адзнак любога тэксту. Што такое стылі мовы, якія яны бываюць, у чым іх адрозненні ды які раздзел мовазнаўства вывучае стылі мовы — на гэтыя пытанні мы і будзем цягам двух урокаў шукаць адказаў.

(Настаўнік зачытвае тэму ўрока з дошкі, вучні запісваюць яе ў сшыткі)

**Праца з тэрміналогіяй**

*Стыль мовы — гэта разнавіднасць мовы, якая абслугоўвае пэўную сферу чалавечай дзейнасці; гэта сукупнасць прыёмаў адбору і выкарыстання моўных сродкаў у залежнасці ад характару і зместу выказвання, з улікам таго, дзе, калі, для чаго і каму выказваецца думка.*

*Стылістыка — гэта раздзел мовазнаўства, які выяўляе суаднесенасць слоў з тымі ці іншымі стылямі мовы.*

(Паняцці «стыль мовы» і «стылістыка» запісаны на дошцы, вучні робяць запіс у сшытках)

**Праца з падручнікам**

**Настаўнік:**

— Колькі функцыянальных стыляў у нашай мове? Назавіце іх. (Праца са схемай падручніка на ст. 14)

— Давайце паспрабуем разабрацца, чым яны адрозніваюцца. На ст. 14-15 вашага падручніка пададзены тэксты розных стыляў, але ўсе яны прысвечаны адной тэме — тэме восені. (Вучні чытаюць тэксты)

— Які тэкст пра восень вам больш спадабаўся? Чаму? (Адказы вучняў)

— Чым адрозніваецца тэкст IV (гутарковы стыль) ад іншых? (Адказы вучняў)

— Якая розніца паміж тэкстамі I і II (навуковы і мастацкі стылі)? (Адказы вучняў)

— А цяпер давайце разгледзім табліцу на ст. 16 і ахарактарызуем кожны стыль мовы паводле наступных крытэрыяў: сфера выкарыстання, функцыя, жанры, стылёвыя адзнакі і моўныя сродкі. (Праца з табліцай)

**V. Прымяненне атрыманых ведаў на практыцы**

Праца з практыкаваннямі з падручніка.

**VI. Замацаванне ведаў**

**Праца ў групах**
(Клас дзеліцца на 2 групы. Кожная з іх атрымлівае картку з практычнымі заданнямі і прыкладнай схемай стылістычнага аналізу тэксту)

**Група I**

1) Скласці дыялог на тэму „На перапынку ў школе".

2) Зрабіць стылістычны аналіз тэксту (фрагмент з рамана ***Людзі на балоце*** І. Мележа).

Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў — аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы.

Вёска тулілася ля берага вострава — платы агародаў дзе-нідзе забягалі на куп'ё ўзболатка. З другога боку, на поўнач, балоты крыху адступалі, дорачы людзям пясчанае поле. Адступалі балоты і на заходнім баку, дзе рунелі ці жаўцелі да краю лесу палі, таксама скупыя, няўдзячныя, хоць у іх глебе і было менш пяску. З поўдня балоты зноў падбіраліся да саламяных, замшэлых радоў стрэх, але ў гэты бок ішла найбольш сувязь са светам, і тут па дрыгве была намошчана дарожка. Што гэта за дарожка, можна меркаваць хоць бы з таго, што ездзілі па ёй смела толькі ў маразы, калі і непралазная твань навокал рабілася цвёрдая, як ток, ці ўлетку, калі дарожка перасыхала.

**Група II**

1) Напісаць заяву ці тлумачальную запіску (на выбар).

2) Зрабіць стылістычны аналіз тэксту (артыкул з тыднёвіка ***Ніва***).

***Прыкладная схема стылістычнага аналізу тэксту***

Гэты тэкст ... стылю.

Па-першае, ён (можа быць) адрасаваны ...

Па-другое, тэкст (можа быць) выкарыстаны ...

Па-трэцяе, задача (функцыя) тэксту — ...

Па-чацвёртае, адзнакамі стылю служаць ...

Па-пятае, тэксту характэрны такія моўныя сродкі, як ...

Усе названыя прыметы даюць падставу лічыць, што гэты тэкст адносіцца да ... стылю.

## VII. Рэфлексія

**Настаўнік:**

— Паглядзіце на гэту піраміду ведаў (на дошцы намалявана піраміда). Яна падзелена на тры часткі. На якую вышыню вы сёння падняліся: 1, 2 ці 3? Калі 1 — гэта «мне ўсё зразумела», 2 — «збольшага усё зразумела, але засталіся пытанні», 3 — «нічога не разумею, мушу разабрацца сам».

## VIII. Аналіз працы вучняў і выстаўленне адзнак

## IX. Дамашняе заданне

Вывучыць тэарэтычны матэрыял; напісаць 2 тэксты розных стыляў на адну тэму.

III КЛАС ГІМНАЗІІ (1 гадзіна)

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: ПРАЦЯЖНІК ПАМІЖ ДЗЕЙНІКАМ І ВЫКАЗНІКАМ

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Вучань**
- пашырае веды пра сказ;
- правільна ставіць працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам;
- разумее ролі галоўных членаў сказа;
- развівае пунктуацыйныя навыкі;
- удасканальвае ўменні і навыкі пастаноўкі сэнсавых пытанняў да дзейніка і выказніка;
- ведае спосабы выражэння галоўных членаў сказа;
- развівае моўнае чуццё і камунікатыўныя здольнасці;
- адчувае павагу да роднага слова.

**ТЫП УРОКА:** тлумачэнне новага матэрыялу

**ФОРМА ПРАЦЫ:** праца індывідуальная, калектыўная, у парах

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** падручнікі *Практычная беларуская граматыка, Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы*, карткі з заданнямі, карткі з правілам.

**ЭПІГРАФ:**

*Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова.*
***А. Разанаў***

**ХОД УРОКА**

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Арфаграфічная хвілінка**

*Восеньскі, падысці, лялька, паўза, ляснік, каменьчык, акварыум, бясстрашны, галлё, страус, зялёненькі, раз'ехацца, паўночна-ўсходні, шэрасць, велізарны.*

(Праца ў парах: вучні мяняюцца сшыткамі і правяраюць адзін аднаго. Пасля аналізуюць напісанне слоў разам з настаўнікам)

**III. Праверка дамашняга задання**

Праверка пісьмовай дамашняй працы і правядзенне франтальнага апытання:

— Што такое сказ?

— Якія бываюць сказы па мэце выказвання? Прывядзіце прыклады.

— Які сказ называюць развітым, а які — неразвітым? Прывядзіце прыклады.

— Чым адрозніваюцца аднасастаўныя сказы ад двухсастаўных? Прывядзіце прыклады.

— Колькі граматычных асноў у простым сказе?

— Чым звычайна выражаецца ў сказе дзейнік, выказнік? Прыклады.

## IV. Вывучэнне новага матэрыялу

**Агучванне тэмы і мэтаў урока**

**Настаўнік:**

Звярніце, калі ласка, увагу на дошку. У якасці эпіграфа да ўрока я ўзяла словы Алеся Разанава. (Настаўнік зачытвае эпіграф)

У гэтым выразе ёсць працяжнік? Ці паставілі б вы яго, яшчэ не ведаючы правіла? Што падказвае ваша моўная інтуіцыя? (Меркаванні вучняў)

А зараз праверым, каго інтуіцыя не падвяла.

**Праца з правілам**

Вучні атрымліваюць карткі-табліцы „Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам".

Пасля разгляду правіла вяртаюцца да эпіграфа і аналізуюць правільнасць/няправільнасць пастаноўкі ў ім працяжніка.

**Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам СТАВІЦЦА:**

**1. Калі дзейнік і выказнік выражаны:**

- назоўнік + назоўнік у Н. скл.: *Дзейнасць — адзіны шлях да ведаў.*
- лічэбнік + лічэбнік у Н. скл.: *Два і тры — пяць.*
- інфінітыў + інфінітыў: *Жыць — Радзіме служыць.*
- інфінітыў + назоўнік (назоўнік + інфінітыў): *Спаць у такую пару — вялікі грэх.*

**2. Калі выказнік выражаны фраземай:** *Рукі — хоць рэпу сей.*

**3. Калі перад выказнікам ёсць словы *гэта, вось, значыць, гэта значыць*:** *Маладосць — гэта самая бесклапотная і шчаслівая пара.*

**Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам НЕ СТАВІЦЦА:**

**1. Калі пры выказніку (выражаны назоўнікам у Н. скл.) ёсць адмоўе *не*:** *Яго праца не мёд.*

**2. Калі выказнік выражаны параўнальным зваротам са злучнікамі *што, як, быццам, нібы*:** *Дзяўчына як лялька.*

**3. Калі паміж дзейнікам і выказнікам ёсць пабочнае слова, злучнік ці часціца:** *Мае вершы, відаць, часовыя прыстанішчы, якія будую ўсё жыццё.*

**4. Калі дзейнік выражаны назоўнікам, а выказнік — прыметнікам:** *Ноч ціхая.*

**5. Пры адваротным парадку слоў (выказнік + дзейнік):** *Старанны вучань Алесь Вярба.*

**6. Калі дзейнік выражаны асабовым займеннікам:** *Яны надзейныя сябры.*

**ЗАЎВАГА!**
У адзначаных выпадках можа быць пастаўлены працяжнік толькі як стылістычны сродак пры сэнсавым падкрэсліванні, пры вялікай паўзе паміж дзейнікам і выказнікам.

## V. Фармаванне ўменняў і навыкаў

**Праца з падручнікам**

Практыкаванні 7, 8, 9 на ст. 191-192

**Пісьмо пад дыктоўку**

**Настаўнік:**

Запішыце сказы, падкрэсліце ў іх граматычныя асновы.

*Ігнараваць мову — гэта значыць ігнараваць народ, нацыю.*

*Сляпы сляпому не правадыр.*

*Адзінаццаць і шэсць — сямнаццаць.*

*Вусны нібы спелыя суніцы.*

*Кожны чалавек — гэта цэлы свет.*

*Лісце на дрэвах зялёнае, жывое.*

*Агульная плошча Белавежскай пушчы — каля 145 тысяч гектараў.*

*Ён мой лепшы сябар.*

(Вучні па чарзе зачытваюць сказы, называюць дзейнік і выказнік, спосаб іх выражэння, аналізуюць пастаноўку працяжніка ў сказах)

## VI. Рэфлексія

**Настаўнік:**

- Што новага вы даведаліся сёння?
- Калі ставіцца працяжнік паміж галоўнымі членамі сказа?
- Ці засталіся ў вас нейкія пытанні?

## VII. Аналіз працы вучняў і выстаўленне адзнак

## VIII. Дамашняе заданне

Вывучыць правілы пастаноўкі працяжніка паміж дзейнікам і выказнікам; практ. 10 на ст. 192.

III КЛАС ГІМНАЗІІ (1 гадзіна)

# Тэма: АПАВЯДАННЕ Я. БРЫЛЯ *MEMENTO MORI*, АБО Ў ЧЫМ СЭНС ЖЫЦЦЯ ЧАЛАВЕКА?

## МЭТЫ ЎРОКА:

**Вучань**

- узбагачае веды пра Я. Брыля і яго творчасць;
- разумее глыбокі філасофскі змест твора *Memento mori*;
- вызначае яго ідэйную накіраванасць;
- раскрывае высакароднасць учынку галоўнага героя;
- выразна чытае і пераказвае тэкст *Memento mori*;
- карыстаецца фактамі з тэксту: аргументуе, даказвае, характарызуе вобразы герояў і іх учынкі;
- адчувае пашану да ўсяго, што нас акружае;
- адчувае адказнасць за свае ўчынкі.

**ТЫП УРОКА:** урок-разважанне

**ФОРМА ПРАЦЫ:** праца індывідуальная, калектыўная, у групах

**ДАПАМОЖНІКІ:** падручнік *Сучасная беларуская літаратура для III класа*, карткі з пытаннямі для кожнай групы, партрэт Янкі Брыля, здымкі мемарыяльнага комплексу «Хатынь».

**ЭПІГРАФ:**

*Вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць.*
***Я. Брыль***

## ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант**

**II. Уступнае слова настаўніка (уводзіны ў тэму)**

**Н а с т а ў н і к:**
У багатым суквецці выдатных беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя мы знойдзем і імя Янкі Брыля, з якім мы пачалі знаёміцца на папярэднім уроку. І сёння мы з вамі пагаворым пра яго апавяданне *Memento mori,* паразважаем пра жыццё, сэнс чалавечага існавання і маральны выбар.

Але на пачатку хачу звярнуць вашу ўвагу на эпіграф да сённяшняга ўрока (настаўнік зачытвае эпіграф, які запісаны на дошцы). І ў канцы ўрока вы адкажаце мне, ці мае рацыю выказванне Янкі Брыля, ці згодныя вы з гэтымі словамі ці не.

**III. Праца з новым матэрыялам**

**Н а с т а ў н і к:**
У беларускай літаратуры многа твораў пра вайну. Падзеям Вялікай Айчыннай вайны многія свае творы прысвяціў і Янка Брыль. Сярод іх — апавяданне *Memento mori*.

На шчасце, нам не выпала перажыць гэты жудасны час. Але ўсе мы шмат пра вайну чулі, чыталі... Якая яна, вайна?.. Давайце трошкі задумаемся, з чым яна асацыюецца ў чалавека.

**Калектыўная праца**

Вучні падбіраюць і запісваюць у сшытак сінонімы і азначэнні да слова „вайна".

*Вайна — што гэта? (смерць, разруха, бязвыхаднасць, страта, разлад, безабароннасць, пакуты, невыноснасць, кроў, жах, боязь, боль, голад...)*

*Вайна — якая яна? (крывавая, жудасная, бесчалавечная, лютая, страшная, непатрэбная, крыважэрная, бессэнсоўная...)*

**Праца з апавяданнем**

**Настаўнік:**

Давайце ўзгадаем змест апавядання Янкі Брыля *Memento mori*.

(Вучань пераказвае змест твора)

**Настаўнік:**

Як вы заўважылі, гэты твор — на некалькі старонак, з простым падзейным сюжэтам. Але разам з тым ён вельмі змястоўны, бо закранае маральна-этычную праблему, праблему маральнага выбару чалавека. Апавяданне скіроўвае чытача да роздуму над сэнсам чалавечага жыцця, да асэнсавання ўласных учынкаў.

Варта адзначыць, што ў гэтым творы Брыль выкарыстаў аўтабіяграфічны матэрыял, уплятаў у свае празаічныя радкі рэальныя факты. Так, асновай апавядання *Memento mori* стаў лёс Брылёвага сябра Данілы Змітравіча Скварнюка, які быў печнікам, жыў у скідальскай вёсцы Пузевічы. Гітлераўцы спалілі гэтую вёску разам з яе жыхарамі, згарэў тады і Даніла...

Праўдзівасць падзей, пра якія расказвае аўтар, пацвярджаюць і попел Хатыняў, спаленыя ды расстраляныя жанчыны, дзеці, старыя...

**Праца ў групах**

Вучні пачынаюць працаваць у групах. Кожная група атрымлівае карткі з пытаннямі, на якія трэба адказаць.

**Група 1**

1. Калі і дзе адбываюцца падзеі ў творы? (Падмацуйце адказ тэкстам)
2. Што вы можаце сказаць пра асобу перакладчыцы?
3. Чаму зондэрфюрэр вырашыў даравяць жыццё печніку?
4. Ці можам казаць, што ў сэрцы зондэрфюрэра ёсць месца для чалавечнасці?

**Група 2**

1. Што вы ведаеце пра папярэдняе жыццё старога?
2. Чаму зондэрфюрэр звярнуў увагу на старога печніка?
3. Назавіце кульмінацыю ў творы. (Падмацуйце адказ тэкстам)
4. Як вы ацэньваеце ўчынак старога?

**Настаўнік:**

Як бачым, чалавек, маючы магчымасць жыць, палічыў за лепшае памерці. Пячнік фізічна гіне, але ўжо не як бездапаможная ахвяра, а як чалавек, які прымусіў ворага знервавацца і атрымаў над ім маральную перамогу. Горды і непакорлівы, не страціўшы сваёй годнасці, не здрадзіўшы сваім перакананням, сумленню, стары не пажадаў літасці ката, бо без аднавяскоўцаў, свайго народа не бачыў радасці і сэнсу жыцця. І ў гэтым яго бессмяротнасць.

*«...І ён згарэў — адзін, хто мог бы ў той дзень не згарэць. І ён жывы».*

Гэтымі словамі канчаецца твор. Два заключныя сказы апавядання поўныя глыбокага сэнсу. Кожны з іх пачынаецца з чырвонага радка, што надае ім яшчэ большую ўдзельную вагу.

У якасці загалоўка да апавядання Янка Брыль выбраў старадаўняе лацінскае выслоўе, што значыць „помні пра смерць". Як вы думаеце, чаму? (Разважанні вучняў)

**Настаўнік**
(падагульняе адказы): Загаловак можа быць выкарыстаны ў розных значэннях: гэта «помні пра смерць (бязвінных ахвяр у сотнях беларускіх Хатыняў)»; «умей і памерці Чалавекам (як памёр герой апавядання)»; «думай пра тое, які пакідаеш пасля сябе след».

**IV. Падагульненне і рэфлексія**

**Настаўнік:**
А зараз я хачу вярнуцца да нашага эпіграфа: „Вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць". Як вы разумееце гэтыя словы Янкі Брыля. Ці згодны з выказваннем? (Разважанні і адказы вучняў)

**V. Ацэнка працы вучняў і выстаўленне адзнак**

**VI. Дамашняе заданне**

Напісаць невялікае сачыненне-разважанне на тэму „У чым сэнс жыцця чалавека?" або „Без чалавечнасці не можа быць вечнасці" (пажадана паводле апавядання *Memento mori*).

Сцэнарыі ўрокаў

# Тэма: „МНЕ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА...”. ЛЕТНІЯ НАРОДНЫЯ АБРАДЫ — КУПАЛЛЕ



Яўгенія ТАРАНТА

**МЭТЫ ЎРОКА:**

**Вучань:**

- выказваецца на тэму эпіграфа ўрока
- спалучае пазнаныя святы сваіх продкаў з уласцівым рэквізітам і парой года
- упарадкоўвае прачытаныя інфармацыі
- робіць вывады
- патрапіць пераказаць змест выслуханай легенды
- выказвае свае ўражанні з пабыўкі на свяце Купалы
- разумее значэнне спадчыны продкаў
- спявае песню „Купалінка”
- выконвае купальскія вянкі

**ЧАС:** два ўрокі

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ:** кіраваная размова, праца з тэкстам, гутарка

**ФОРМЫ ПРАЦЫ:** праца ў групах, выкананне вянкоў, спяванне купальскай песні „Купалінка”

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** тэкст пра Купалле, заданні для кожнай групы, эпіграф урока памешчаны на дошцы, лозунг над дошкай „Мне засталася спадчына”, палявыя кветкі, лясная папараць, вянкі, запісы песень „Спадчына” і „Купалінка”

**ХОД УРОКА:**

**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Уводзіны ў тэму.**

1. На фоне песні „Купалінка” вучні ўваходзяць у клас.
2. Настаўнік знаёміць вучняў з эпіграфам урока, запісаным на дошцы.

***Словы Ніла Гілевіча будуць эпіграфам нашага ўрока. Паслухайце іх:***

***„Раскладайце, паліце Купалля кастры!<br>Не затым, каб уваскрэсла мінуўшчына,<br>А каб лепей убачыць мінуўшчыны дні,<br>Да вытокаў душой дакрануўшыся...”***

3. Вучні чытаюць гэты фрагмент некалькі разоў.
4. Супольнае высвятленне незразумелых слоў.
5. Кіраваная размова — вучні адказваюць на пытанні настаўніка на падставе зпіграфа і ўласных ведаў.

***З якой мэтай аўтар прапануе распаліць „касцёр”?***

*— каб успомніць мінуўшчыну, каб даведацца пра святы, звычаі нашых продкаў...*

***Да якіх народных свят мы ўжо дакрануліся на ўроках?***

*— да Дзядоў, Каляд, Вялікадня...*

***З якой парой года яны спалучаюцца і якія іх характэрныя рэквізіты?***

*— з восенню (вечны агонь, памінальная вячэра і абед...); з зімой (ёлка, святочны стол, куцця, госцік, калядкі...); з вясной (каляровыя яйкі, пасха, мазуркі...)*

***Ці ўсе традыцыі гэтых свят захаваліся?***

— *некаторыя, мала...*

6. Настаўнік падсумоўвае гутарку (робіць выснову), паказваючы на змешчаны над дошкай лозунг.

***Тое, што асталося гэта спадчына. Трэба яе берагчы, таму што без спадчыны нама сучаснасці і будучыні.***

— Вучні называюць іншыя элементы спадчыны нашых продкаў.

**III. Рэалізацыя тэмы.**

1. На фоне песні „Спадчына" настаўнік запісвае тэму ўрока.
2. Кіраваная размова:

***Пра якое свята будзем сёння гаварыць?***

***Што вы ведаеце пра Купалле?***

3. Настаўнік называе мэты заняткаў.

***Пашырыць веды на тэму свята, стварыць у класе настрой Купалля, „каб да вытокаў душой дакрануцца".***

4. Настаўнік расказвае легенду пра ноч Купалы.

***Аднойчы Бог сказаў Сонцу, што прыйшла самая кароткая ноч у годзе, калі заходзіць трэба позна, а ўставаць рана. Сонца ўзрадавалася, Яно не любіла каціцца ў цёмную ноч на сон. Днём яно сябравала, а ўначы журылася, сумавала. Але, калі дні пачалі рабіцца штораз карацейшыя, а ночы даўжэлі, Сонца заплакала. Там, дзе падала на зямлю сонечная сляза расцвітала-загаралася кветка-папараць. Людзі пачалі задумоўвацца, ці гэта не Бог запаліў гэты цуд у начной цемнаце. Яны даверылі самаму старому чалавеку сарваць кветку. Калі наблізіўся ён да кветкі, загуло, затраслося ўсё навокал, нейкая нячыстая сіла пачала хапаць за рукі, валасы. Усе злыя духі пачалі душыць старога за горла, казытаць, цягнуць у цемнату. І адступіўся стары чалавек, а кветка зноў пачала зіхацець, іскрыцца.***
***Зразумелі людзі, што гэта чароўная кветка і рашылі выслаць па яе маладога, моцнага хлопца. Змучыўся ён у барацьбе з нячыстай сілай, але пераканаў яе, сарваў кветку і пачаў уцякаць. У гэты момант дрэвы пачалі танцаваць, трава зашаптала, птушкі зашчабяталі. Уся прырода пачала яму спавядацца. А юнак усё чуў і разумеў. Хлопец знайшоў вялікае багацце. Усё падзяліў з людзьмі свайго краю.***
***З птушкамі і звярамі размаўляў як са сваімі сябрамі. Навучыўся слухаць і разумець галасы неба і зямлі.***
***З таго часу штогод у самую кароткую ноч расцвітае кветка папараці і людзі шукаюць яе, каб стаць шчаслівымі. А ноч гэтую чароўную называюць Купальскай, святога Купалы, паводле язычніцкіх вераванняў, бога, ад якога залежаў будучы ўраджай, жыццё і побыт людзей.***

5. Вучні спяваюць першую страфу песні „Купалінка".

6. Настаўнік дзеліць клас на 8 груп, кожнай дае тэкст і пытанні да яго. Вучні працуюць 10 хвілін.

**I група:**

a. Што гавораць даследчыкі на тэму паходжання свята Купалы?

**II група:**

a. Што залежала ад Сонца?
b. У чым заключалася ачышчальная і гаючая функцыя вогнішча?
c. Якія абрады выступалі ў Купальскую ноч?

**III група:**

a. Хто скакаў праз вогнішча?
b. Што рабілася, каб зберагчы ўраджай ад ведзьмаў, а што, каб уміласцівіць Сонца?
c. Якія абрады выступалі ў Купальскую ноч?

**IV група:**
a. Што спраўляла моладзь у Купальскую ноч?
b. Якія абрады выступалі?

**V група:**
a. Чым займаліся дзяўчаты і жанчыны напярэдадні Купальскай ночы?
b. Да чаго служылі сабраныя зёлкі?
c. Якія абрады тут выступалі?

**VI група:**
a. Якія рытуальныя стравы спажывалі ў ноч Купалы?

**VII група:**
a. У які спосаб варажылі ў Купальскую ноч?

**VIII група:**
a. У чым заключаецца эротыка Купальскай ночы?

7. Прадстаўнікі груп прэзентуюць сваю працу. Вучні запісваюць вывады на дошцы і ў сшытках.

8. Настаўнік ацаняе працу вучняў і сцвярджае:

❖ ***Мінуўшчыны дні мы ўжо пабачылі, а цяпер дакранемся да таго душой.***

9. Вучні спяваюць песню і плятуць вянкі.

10. Словы-павучанні настаўніка.

❖ ***Першыя пісьменныя ўпамінанні аб гэтым язычніцкім свяце адносяцца да XII — XIII стст. З таго часу прайшло шмат стагоддзяў. На змену язычніцтву прыйшло хрысціянства. Але Купальскае свята жыве. Дык няхай Купалле служыць вам (нам) вечнай памяткай па нашых продках, верай, што Сонца пераможа цемру ночы, верай, што ўсё светлае, добрае, справядлівае звае адвечнае зло і дасць магчымасць жыць і развівацца ў свабодным, мірным свеце.***
***Свята нашых продкаў не забыта цяпер. Гэтая спадчына жыве. Доказам ёсць Купальскія абрады на тэрыторыі нашай Малой Айчыны — Беласточчыны: у Белавежы, у Нарве....***

11. Вучні расказваюць аб сваіх уражаннях з пабыўкі на гэтым свяце, спяваюць і робяць вянкі.

**IV. Падсумаванне тэмы.**

1. Настаўнік падсумоўвае рэалізаваную на ўроку тэму.

❖ ***Нам засталася спадчына, трэба яе берагчы і пераказваць наступным пакаленням. Думаю, што беражэм, калі так многа людзей бярэ ўдзел у святкаваннях. І яшчэ таму, што вы, як маладое пакаленне, умееце спяваць „Купалінку".***

2. Вучні спяваюць песню.

## ЛЕГЕНДА

❖ ***пытанне, слова настаўніка***
— адказ вучня

## ВЫВАДЫ З ЗАНЯТКАЎ:

**I. Этымалогія слова „Купала":**

1. бог ураджаю, жыцця і побыту людзей
2. ад слоў
   - купацца
   - ярыцца, ускіпаць
   - збор, грамада людзей

**II. Культы і абрады звязаныя з Купаллем**:

1. Культ Сонца (салярны) — абрады:
   - распальванне вогнішчаў
   - спальванне старых рэчаў, вопраткі хворых людзей, засохлай зяляніны
   - вакол вогнішча абводзілі жывёлу
   - скокі праз вогнішча
   - прыносілі чалавечую ахвяру

2. Культ вады:
   - купанне ў рэках і азёрах
   - умыванне ранішняй вадой
   - качанне па расе ў жыце
   - пусканне вянкоў
3. Культ расліннасці:
   - збіранне траў і кветак — зёлак
   - выраб вянкоў
   - абкладанне крапівой калодзежаў, акон, дзвярэй

**III. Рытуальныя стравы:**

- яешня
- бліны
- верашчака (рэдкая мучная страва з маслам, каўбасой, прыправамі)
- кулага (каша з мукі з ачышчанага, падпражанага аўса)
- варэнікі з грэцкай мукі
- гарэлка

**IV. Варажба:**

- „на замкнёнай вадзе"
- на вянках
- на раслінах
- на жытніх каласах

**V. Эротыка.**

# КУПАЛЛЕ — ДЫДАКТЫЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

**Купалле** — старадаўняе свята летняй пары. Святкавалася ў гонар Сонца, якое ў гэты час знаходзілася ў зеніце. Купалле адзначалася як свята росквіту сіл зямлі, расліннасці і збажыны, а таксама маладосці.

### Этымалогія слова „купала" („Купала")

Слова мае некалькі трактовак. Самая распаўсюджаная ў цяперашні час — ад старажытнаславянскага „купа" — „купець", што абазначае „гарэць".
Другая трактоўка — ад слова „купацца".
Трэцяя — ад кораня „куп", „кып". Лацінскае „cupio" — „ярыцца", „злавацца", „ускіпаць".
У „Тлумачальным слоўніку" „куп" тлумачыцца як „збор", „зборышча людзей".
Іншае тлумачэнне: Бог ураджаю, жыцця і побыту людзей.

### Культы звязаныя з абрадам Купалля

#### *Салярны культ*

Адным з важнейшых культаў купальскага свята з'яўляецца культ Сонца. З Сонцам быў звязаны будучы ўраджай, багацце траў і раслін, прыплод скаціны, шчаслівае жыццё людзей. Агонь (касцёр) увасабляў сабою Сонца. Ён выконваў цэлы шэраг функцый, якія заключалі ў сабе ўрадлівае, засцерагальнае (ахоўнае), ачышчальнае, гаючае значэнне.

Кастры, як правіла, былі вялікіх памераў, каб жыта ўдалося высокім, а ўраджай багатым. Вогнішчы звычайна разводзілі на ўзвышаных месцах, якія ў народзе называліся лысымі гарамі. Часам вогнішчы раскладвалі на берагах рэк, азёр, за вёскай паблізу жытнёвых палёў. Хлопцы выходзілі групамі з сяла. На чале кожнай групы ішоў хлопец, які нёс на высокім шасце запаленае кола, густа абмазанае смалой і дзёгцем. Яно сімвалізавала сонечны круг і спальвалася ў пачатку купальскага абраду. Купальскі агонь запальвалі спосабам трэння драўляных брускоў (бярвён апілаваных або ачасаных з чатырох бакоў) адзін аб другі. У тых месцах, дзе было мала дроў, касцёр імітавала вялізная куча крапівы.

Ачышчальная і гаючая функцыя вогнішча заключалася ў спальванні ў ім старых рэчаў, адзежы хворых дзяцей. Рытуальным было паленне „мая" — засохлай зеляніны, якою ўпрыгожвалі хаты на Тройцу. Дымам ад „мая", а таксама спецыяльна спаленых лекавых раслін акурвалі дзяцей, хворых. Часта вакол вогнішча абводзілі жывёлу.

Абавязковым на Купалле было пераскокванне праз вогнішча. У старажытныя часы дазвалялася скакаць толькі парам — агонь тут выконваў урадлівую функцыю. Да Купалля падбіраліся шлюбныя пары. Вяселле спраўлялі звычайна ўжо пасля збору ўраджаю, ці зімой. Пазней гэты абрад змяніўся — праз вогнішча сталі скакаць усе ўдзельнікі свята па парах ці па аднаму.

З абрадаў аграрнай магіі вядомы выпадак кідання ў вогнішча розных прадметаў з прыгаворамі: „зарадзі жыта (лён)", „каб гадавалася скаціна". З мэтай аховы ўраджаю ад вядзьмарак і ведзьмакоў у жыта кідалі галавешку з купальскага вогнішча.

Сяляне ў гэтую раніцу ішлі сустракаць усход сонца.

У старажытнасці нашыя продкі, каб уміласцівіць Сонца, прыносілі чалавечую ахвяру. Ёй з'яўлялася самая прыгожая маладая дзяўчына. У лесе раней рыхтавалі яму, якую прыкрывалі галінамі, каб яна не была прыкметная. Дзяўчыну-„Куст" ці „русалку" ўпрыгожаную кветкамі ці вянкамі з лісця абводзілі па ўсім сяле, затрымліваючыся перад кожнай хатай, спявалі рытуальныя песні, затым выводзілі за сяло ў лес, спіхвалі ў яму і закідвалі (забівалі) камянямі. Такі варварскі звычай быў заменены неўзабаве больш гуманным. Замест дзяўчыны сталі прыносіць у ахвяру ляльку ці саламянае чучала, якое называлася Марэна (Мара).

***Культ вады***

Поруч з культам Сонца ў купальскім абрадзе вельмі важны культ вады, асабліва крынічнай.

На Купалле хлопцы і дзяўчаты спраўляюць рытуальнае купанне ў рэках, азёрах, вадаёмах, таму што вада ў гэту ноч валодае магутнай гаючай, жыватворнай, жыццёвай і пладаноснай сілай. Яна, па паданню, робіць людзей прыгожымі. Аналагічны сэнс носіць на Купалле ўмыванне ранішняй расою і качанне па расе ў жыце.

З культам вады звязана і гаданне на вянках — пускаюць на ваду і глядзяць, куды яны прыплывуць, у той бок дзяўчына пойдзе замуж. Калі ж вянок патоне, гэта прадвяшчае няшчасце ці нават смерць. У вянкі, што пускаюць на ваду, устаўляюць запаленыя свечкі.

***Культ расліннасці***

Напярэдадні купальскай ночы, пад вечар, дзяўчаты і жанчыны адпраўляліся на луг, у поле, лес збіраць купальскія травы і кветкі-зёлкі, якія к гэтаму часу дасягалі асаблівай гаючай сілы. Збіралі лекавыя расліны. Імі, пасля асвячэння ў царкве, лячылі на працягу года членаў сям'і і жывёлу. Цэлы шэраг раслін валодаў магічнай, прыварожваючай сілай. З іх дапамогай дзяўчына прыварожвала да сябе жаніха. Яна ўплятала кветкі ў вянок, аздабляла імі валасы, вопратку. Такімі рытуальнымі, купальскімі раслінамі з'яўляліся купалкі (святаянскія зёлкі). Дзяўчаты збіралі кветкі да вянкоў, на якіх гадалі.
Расліны і травы ў купальскую ноч валодалі не толькі гаючай, але і чароўнай сілаю.

Ад вядзьмарак і ведзьмакоў абкладалі крапівой калодзежы, вокны, дзверы. Крапіва бараніла ад злых сіл і чараў, увасабляла сабою агонь (сонца) і надзяляла тымі ж уласцівасцямі, што і яны. Яна таксама з'яўлялася раслінай звязанай з аграрнай магіяй. Крапіву дабаўлялі ў хлеб. Купальскія травы кідалі ў печ у час навальніцы для таго, каб уміласцівіць бога грому Перуна.

***Рытуальныя стравы***

Купальскія ўрачыстасці, як і іншыя каляндарныя і сямейна-абрадавыя святы мелі свае рытуальныя стравы. Імі з'яўляліся яешня, бліны, верашчака, кулага (каша), варэнікі з грэцкай мукі. Абавязковым атрыбутам на бяседзе была гарэлка.

***Варажба***

У купальскую ноч усе гадалі пра сваіх суджаных, пра сваё будучае жыццё.

Агульнай для зімовых і летняга купальскага святаў была варажба „на замкнёнай вадзе". Пад ложак, у галаве, ставілі пасудзіну з вадой, якую замыкалі замком. Павінен быў прысніцца суджаны з ключом, які адмыкае гэты замок. Або на пасуду з вадой клалі які-небудзь прадмет, уяўляючы масток. У сне павінен быў з'явіцца суджаны, які ідзе ці едзе па мосце.

Тыпічна купальскай ёсць рытуальная варажба на вянках.

Варажылі на раслінах — зёлках, купалках. Іх зрывалі і загадвалі жаданне. Калі праз некаторы час кветкі распушваліся — жаданне здзейсніцца. На купалках варожаць наступным чынам: кожнаму члену сям'і выбіраецца кветка і раніцай глядзяць, у каго яна распушылася. Калі адна з купалак не распускаецца — гэта адзнака скорай смерці таго, каму належыць гэтая краска.
Варажылі таксама на жытніх каласах.

***Эротыка***

- скачкі праз вогнішча
- уплятанне рытуальных кветак у косы з мэтай прываблівання хлопцаў
- гаданне на вянках аб любых і суджаных
- звычай вадзіць „Куста"
- супольнае купанне ў аголеным выглядзе
- асаблівая сексуальная свабода ў гэтую ноч, пасля якой нараджаліся пазашлюбныя (святыя) дзеці.

**Паводле У. М. Сысава, *З крыніц спрадвечных*, Мінск 1997.**

**Сцэнарыі ўрокаў**

# КУПАЛЛЕ — СЦЭНАРЫЙ СВЯТА-ВЕЧАРЫНЫ

**МЭТА ВЕЧАРЫНЫ**
Інтэграцыя вучняў, бацькоў і настаўнікаў.

***Кабінет беларускай мовы мае святочны выгляд. Парты стаяць у выглядзе падковы. На кожнай знаходзіцца вянок з палявых і лугавых кветак, перад кожным удзельнікам святкавання ляжыць жменя такіх жа кветак. Кожны з прысутных мае падрыхтаваныя веды пра купальскае свята (свае ролі), якія выказвае ў адпаведны для яго момант. Галоўныя ролі належаць Вядучаму, Купалінцы і Купалішу. Заняткі адбываюцца пад лозунгам „Мне засталася спадчына", які змешчаны над дошкай.***

*Гучыць песня на слова верша Я. Купалы „Спадчына"*

**Вядучы:**
Сярод старажытных абрадаў, дайшоўшых да нашых дзён, Купалле пачынае займаць адно з ганаровых месц. Гэта цікавае і прыгожае свята, напоўненае паэзіяй і музыкай, прасякнутае любоўю да роднай зямлі, да чалавека на ёй. З цягам часу набывае яно ў кожнай мясцовасці адметныя, толькі яму ўласцівыя, рысы, гарманічна спалучаныя старыя і новыя абрады, гульні і танцы, сучасную і фальклорную музыку. Усю кароткую летнюю ноч, прасякнутую водарам кветак і траў, з 6 па 7 ліпеня (па старому стылю з 23 па 24 чэрвеня) гараць на ўзлесках і на берагах рэк купальскія агні, вабяць да сябе маладыя гарачыя сэрцы з вялікай прагай жыцця, шчасця, кахання, упартым жаданнем шукаць і абавязкова знайсці сваю папараць-кветку.

*На фоне песні „Спадчына" Купалінка чытае верш Н. Гілевіча*

**Купалінка:**
***Раскладайце, паліце Купалля кастры!***
***Не затым, каб ускрэсла мінуўшчына,***
***А каб лепей убачыць мінуўшчыны дні,***
***Да вытокаў душой дакрануўшыся...***

**Купаліш:**
Хіба ж можна спаць у такую ноч! Давайце выбярэмся ў далёкае падарожжа, да „костачак нашых дзядоў!" Давайце ўспомнім пра далёкае мінулае, пра абрады і вераванні збязаныя са святам Купалы, язычніцкага бога ўраджаю, жыцця і быту людзей.

*У зале чуваць І страфу песні „Купалінка" — спяваюць удзельнікі*

***Купалінка, купалінка***
***Цёмная ночка***
***Цёмная ночка** /2 разы*
***А дзе ж твая дочка** /2 разы*

**Вядучы:**
Давайце пабачым мінуўшчыны дні.

**І удзельнік:**
У першую палову дня 6 ліпеня моладзь была вельмі занятая. Хлопцы рыхтавалі дровы, з якіх рабілі вогнішчы. Дзяўчаты збіралі палявыя і лугавыя зёлкі і кветкі, з якіх пляллі вянкі і абавязкова спявалі. Пучок зёлак перавязвалі белай, ружовай ці блакітнай шаўковай стужкай і неслі ў наступны дзень асвяціць у царкве. Яны захоўваліся і служылі як лекавы сродак. Іх таксама клалі ў труну пры пахаванні нябожчыка. Зёлкі ўкладалі за абразамі на покуці, а ў наступны дзень глядзелі ці расцвілі. Калі кветка раскрылася, то гэта значыла, што загаданае жаданне здзейсніцца.

**Вядучы:**
Перад намі ляжаць прыгожыя кветкі. Давайце на працягу нашага „падарожжа ў мінулае" зробім адзін супольны вянок, які з'яднае людзей розных узростаў, які спалучыць нашыя сэрцы і душы.

*Удзельнікі робяць вянкі, спяваюць ІІ страфу Купалінкі*

***Мая дочка ў садочку***
***Ружу, ружу поліць***
***Ружу поліць, ружу поліць** /2 разы*
***Белы ручкі коліць** /2 разы*

**ІІ удзельнік:**
У другой палове дня моладзь ішла на берагі рэк, азёр з мэтай раскладання вогнішчаў і арганізавання купальскіх гульняў.
Дзяўчаты сярод сябе выбіралі Купалінку (Куст) — найпрыгажэйшую, часта засватаную дзяўчыну, якая добра спявала. Яе распраналі дагала і ўпрыгожвалі з галавы да ног зялёным лісцем, папараццю і краскамі, або пакідалі на ёй белую кужэльную сарочку, а на галаву надзявалі вянок. Купалінка выбірала сабе да пары хлопца — Купаліша. Гэта была найважнейшая пара ў гэтую ноч, якая ішла наперадзе шэсця.

**Вядучы:**
Сярод нас таксама ёсць гэтая пара.

**ІІІ удзельнік:**
З Купалінкай моладзь абыходзіла двары кругавым карагодам, качала вакол сяла кола. На чале групы ішоў хлопец, які нёс запаленае кола, абмазанае смалой ці дзёгцем. Усё было круглае так як Сонца, яго культ у гэтую ноч з'яўляўся адным з найважнейшых. Людзі хацелі праз гэта ўміласцівіць Сонца.

**IV удзельнік:**
Бывала так, што моладзь перад кожным домам затрымоўвалася і спявала гаспадарам песню, за што атрымоўвала пачастунак.

*Спяваюць ІІІ страфу „Купалінкі"*

***Кветачкі рвець, кветачкі рвець***
***Вяночкі в'е (звівае)***
***Наце ж, наце ж вам дзяўчаты** /2 разы*
***Усім па вяночку** /2 разы*

**V удзельнік:**

Калі моладзь ведала, што ў нейкай хаце быў нежанаты хлопец, або незамужняя дзяўчына, то закідала там на страху вянок. Тым выказвалася сімвалічнае пажаданне ўзяць ім шлюб. Вяночкі адзявалі таксама на рогі каровам, якія ў гэты момант ішлі з поля. Гэтае мела забяспечыць ад чараў ведзьмы, якая ў купальскую ноч адбірала малако.

**VI удзельнік:**

Я хачу расказаць вам пра вельмі страшны звычай, які хутка быў заменены больш гуманным. Заключаўся у тым, што каб уміласцівіць Сонца, нашыя продкі прыносілі ахвяру. Была ёю самая прыгожая маладая дзіўчына. У лесе загадзя (раней) рыхтавалі яму, якую прыкрывалі, каб не была прыкметная. Упрыгожаную дзяўчыну-„Купалінку" абводзілі па ўсім сяле, затрымліваючыся перад кожнай хатай, спявалі рытуальныя песні, а потым выводзілі ў лес, спіхалі ў яму і забівалі камянямі. Пазней гэты варварскі абрад адмянілі, замест дзяўчыны прыносілі ў ахвяру ляльку ці саламянае чучала, якое называлася Марэна (Мара).

**Вядучы:**

І так мы ўжо дайшлі да месца гульняў. Давайце заспяваем „Купалінку".

*Усе спяваюць*

***Купалінка, купалінка***
***Цёмная ночка***
***Цёмная ночка** /2 разы*
***А дзе ж твая дочка** /2 разы*

**Вядучы:**

Цяпер моладзь запальвала вогнішча. Мы можам яго толькі сабе ўявіць. Няхай яно запаліць у нашых сэрцах агонь памяці, духоўнасці, якая закладзена ў старажытных звычаях і абрадах, песнях і легендах, казках і гульнях, танцах і жартах. Вось яны, нашы продкі, пакінулі нам памяць у слове і звычаі. І мы сёння павінны задумацца: дзеля чаго жывем? Ці ведаем, што было да нас? Што яднае нас з людзьмі, якія жывуць побач? Паглядзіце, як прыгожа гарыць купальскі агонь!

**VII удзельнік:**

На працягу ўсёй ночы вакол кастра вадзіліся карагоды. На чале аднаго Купалінка, а другога — Купаліш.

*Чуюцца словы „Купалінкі"*

***Мая дочка ў садочку***
***Ружу, ружу поліць***
***Ружу поліць, ружу поліць** /2 разы*
***Белы ручкі коліць** /2 разы*

**VIII удзельнік:**

А ці ведаеце, якія функцыі выконваў агонь? Так, што слухайце: ачышчальную, гаючую, урадлівую і засцерагальную. У вогнішчы спальвалі старыя рэчы, вопратку хворых дзяцей. Рытуальным абрадам было паленне засохлай зеляніны, якой упрыгожвалі хаты на Тройцу, інакш „мая". Дымам гэтым акурвалі дзяцей і хворых. Часта вакол вогнішча абводзілі жывёлу.

**IX удзельнік:**
Абавязковым на Купалле было перскокванне праз вогнішча, падлеткі — праз букет кветак. Скакалі асобна, парамі і ў дзве пары накрыж.

**Купалінка:**
Так многа мы сёння напрацаваліся, усе стаміліся. Давайце пагаворым, чым папаўнялі страўнікі ў гэты вечар.

**X удзельнік:**
Так вось, купальскія ўрачыстасці, як і іншыя каляндарныя і сямейна — абрадавыя святы, мелі свае рытуальныя стравы. Імі з'яўляліся яешня, бліны, верашчака (рэдкая мучная страва з маслам, каўбасой, прыправамі), кулага (каша з мукі з ачышчанага і падпражанага аўса), варэнікі з грэцкай мукі і абавязкова гарэлка.

**Вядучы:**
„Спажывайце вячэру" — слухайце легенду пра кветку Папараці.

*(Гучыць песня „Спадчына". Вядучы расказвае)*

Аднойчы бог сказаў Сонцу, што прыйшла самая кароткая ноч у годзе, калі заходзіць трэба позна, а ўставаць рана. Сонца ўзрадавалася. Яно не любіла каціцца ў цёмную ноч на сон. Днём яно сябравала, а ўначы журылася, сумавала. Але, калі дні пачалі рабіцца штораз карацейшыя, а ночы даўжэлі, Сонца заплакала. Там, дзе падала на зямлю сонечная сляза расцвітала-загаралася кветка Папараці. Людзі пачалі задумоўвацца, ці гэта не бог запаліў гэты цуд у начной цемнаце. Яны даверылі самаму старому чалавеку сарваць кветку. Калі наблізіўся ён да кветкі, нейкая нячыстая сіла пачала хапаць за рукі, валасы, усе злыя духі пачалі душыць старца за горла, казытаць, цягнуць у цемрадзь. І адступіўся стары чалавек, а кветка зноў пачала зіхацець, іскрыцца.
Зразумелі людзі, што гэта чароўная кветка і рашылі выслаць па яе маладога, моцнага, дужага хлопца. Змучыўся ён у барацьбе з нячыстай сілай, але паканаў яе, сарваў кветку і пачаў уцякаць. І ў гэты момант дрэвы пачалі танцаваць, трава зашаптала, а птушкі зашчабяталі. Уся прырода пачала яму спавядацца, расказваць і юнак усё чуў і разумеў. Валадар кветкі знайшоў вялікае багацце. І ўсё падзяліў з людзьмі свайго краю (землякамі). А з птушкамі, звярамі размаўляў як са сваімі сябрамі. Навучыўся слухаць і разумець галасы неба і зямлі. З таго часу штогод у самую кароткую ноч расцвітае кветка Папараці і людзі шукаюць яе, каб стаць шчаслівымі.

**Купаліш:**
Час набліжаецца да поўначы. Пара і нам ісці шукаць такую цудоўную кветку. Хто смелы — за мной.

*Удзельнікі ўстаюць, выходзяць на сярэдзіну залы, дзе ў выглядзе кастра ляжаць падрыхтаваныя падаркі з беларускімі часопісамі і газетамі. Да кожнага прымацаваны вяночак. Прысутныя кружаць вакол вогнішча і выбіраюць сабе пакуначак.*

**Купалінка:**
А цяпер пагаворым пра варажэнне.

**XI удзельнік:**
У купальскую ноч дзяўчаты варажылі на вянках. Закідалі кожная свой на дрэва і калі завіс гэта значыла, што дзяўчына хутка пойдзе замуж, не — то пачакае. Або, кожная

дзяўчына клала на свой вяночак дзве палачкі накрыж, прымацоўвала свечку, запальвала яе і пускала вянок на ваду. Пры гэтым прыгаварвала так: „Плыві мой вяночак, то ўніз, то ўгару, к свякровінаму двару" ці „Плыві туды мой вяночак, дзе будзе мой куточак". Калі вяночак круціўся, то абазначала, што дзяўчына астанецца старой дзеўкай, калі стаяў на месцы — то пакуль замуж не пойдзе, калі ўтапіўся — памрэ дзяўчына, у які бок паплыве — туды пойдзе замуж. Бывала так, што бралі два вянкі (адзін дзяўчыны, другі — каханага) і калі сплываліся — то выйдзе за яго, калі не — разыдуцца.

**Купаліш:**

Калі дзяўчаты варажылі, хлопцы імкнуліся камянямі і палкамі патапіць вянкі, каб дзяўчаты не ішлі замуж.

**XII удзельнік:**

Купальскія гульні заканчваліся ранні́м купаннем у рацэ ці возеры таму, што вада ў гэтую ноч, верылі, валодала магутнай гаючай, жыватворнай, жыццёвай і пладаноснай сілай. Яна, паводле падання, рабіла людзей прыгожымі. Выступала нават супольнае купанне голымі.

**XIII удзельнік:**

У некаторых мясцовасцях „купаліся" ў расе ў пшаніцы або жыце. З гэтым былі звязаны таксама варожбы. Качаліся голымі, потым апраналіся і беглі дахаты не аглядаючыся. Трэба было нешта падумаць, каб прыснілася разгадка. Або здымалі далонямі расу з пшаніцы, мылі твар, моўчкі ішлі дадому і кладліся спаць. Хто прысніцца — той будзе жаніхом.
Як з гэта вынікае, у купальскім свяце праяўлялася эротыка. Заключалася і ў тым, што ў гэтую ноч дазвалялася асаблівая сексуальная свабода, пасля якой нараджаліся пазашлюбныя дзеці.

**Купалінка:**

У гэтую ноч дзяўчаты варажылі на зёлках, якія, верылі, валодалі магічнай прывараджваючай сілай. На ростанях ірвалі трыпутнік — травяністую расліну з шырокім лісцем і дробнымі кветкамі сабранымі ў выглядзе коласа, якая расла на лугах, каля дарог — і моўчкі ішлі дадому, клалі кветку непсрэдна пад галаву і тады меў прысніцца жаніх.

**XIV удзельнік:**

Яшчэ варажылі інакш. Перад тым як раніцай 7 ліпеня пайшлі спаць, пад ложак у галаве ставілі пасуду з вадой і замыкалі яе замком. Павінен прысніцца будучы муж, які адчыняе замок.

**XV удзельнік:**

Або, на пасудзіну з вадой клалі нейкі прадмет, уяўляючы масток. Павінен прысніцца муж, што ідзе або едзе па ім.

**Купаліш:**

Асабліва ўрачыстым момантам была сустрэча ўсходу Сонца, калі яно „іграла". Нашыя продкі верылі, што Сонца ў гэтую раніцу едзе да Месяца на трох конях (залатым, сярэбраным і пярловым), танцуе на калясцы, з якой сыплюцца промні і іскры. Калі глядзелі на неба, здавалася, што Сонейка дрыжала, дзялілася на часткі, якія збягаліся ў круг. Калі дзень быў пахмурны і „ігры" не было відаць, верылі, што ў гэтым годзе не будзе дабрабыту і шчаслівых шлюбаў.

**Купалінка:**

На гэтым свята заканчвалася. Прыбіралася за сабой месца гульняў. Вогнішча залівалі вадой. Моладзь вярталася дадому з песняй.

*Удзельнікі спяваюць „Купалінку”*

***Кветачкі рвець, кветачкі рвець***
***Вяночкі в'е (звівае)***
***Наце ж, наце ж вам дзяўчаткі*** */2 разы*
***Усім па вяночку.*** */2 разы*

**Вядучы:**

Першыя пісьменныя ўпамінанні аб гэтым язычніцкім сваце адносяцца да XII — XIII стагоддзяў. З гэтага часу прайшло многа вякоў. На змену язычніцтву прыйшло хрысціянства. Але купальскае свята жыве. Дык няхай Купалле служыць вам вечнай памяткай па нашых продках, верай, што Сонца пераможа цемру ночы, верай, што ўсё святое, добрае, справядлівае зваюе адвечнае зло і дасць магчымасць жыць і развівацца ў свабодным і мірным свеце.

Свята нашых продкаў незабытае цяпер. Гэтая спадчына жыве. Доказам з'яўляюцца купальскія абрады на тэрыторыі нашай Малой Айчыны — Беласточчыны — у Белавежы, у Нарве... Нам засталася спадчына. Я жадаю, каб вы ад гэтага года сталі яе ўдзельнікамі і прадаўжальнікамі.

Цяпер спалучыце свае вяночкі ў адзін супольны, як сімвал неўміручасці народнага духоўнага багацця.

*Гучыць песня „Спадчына”. Удзельнікі спалучаюць вяночкі.*

# *Кантрольная праца — Прыметнік* (І клас ліцэя)



Анна КАЛІНОЎСКАЯ

**Імя і прозвішча**........................................ **Нумар у дзённіку**..................

1. **Утвары прыналежныя прыметнікі:**

   ***Прыклад: Янка мае кватэру. Гэта Янкава кватэра.***

   Маці купіла сукенку Галі. Гэта ..........................................
   На крэсле вісіць хустка бабулі. Гэта ..........................................
   На парце ляжыць сшытак Васіля. Гэта ..........................................

2. **Ад дадзеных прыметнікаў утвары вышэйшую і найвышэйшую ступень параўнання.**

   шчаслівая сям'я — ..........................................
   школьнае сачыненне — ..........................................
   прыгожы горад — ..........................................

3. **Да дадзеных слоў падбяры па адным прыметніку.**

   голас — .................... вочы — ....................
   жанчына — .................... гасцінец — ....................

4. **Ад дадзеных слоў утвары адносныя прыметнікі. Падбяры да іх назоўнікі.**

   дрэва — ..........................................
   кветкі — ..........................................
   лімон — ..........................................

5. **Якія прыметнікі не маюць ступеней параўнання?**

   ..........................................

6. **Адзін з назоўнікаў у кожным словазлучэнні замяні прыметнікам.**

   квас з хлеба — ..........................................
   чайнік з медзі — ..........................................
   матэрыял з ільну — ..........................................

**7. Адкажы на пытанні. Якую родную мову вывучаюць?**

казах — ........................................................ латыш — ......................................................................

**8. Дадзеныя словазлучэнні пастаў у родным і давальным склонах адзіночнага і множнага ліку.**

| **Словазлучэнні** | **Адзіночны лік** | | **Множны лік** | |
|---|---|---|---|---|
| | Родны | Давальны | Родны | Давальны |
| блакітная кроў | | | | |
| дзядзькаў капялюш | | | | |
| лясная дарога | | | | |

**9. Утвары прыметнікі ад прыведзеных слоў. Падбяры да іх назоўнікі.**

Добруш — ....................................................................................................................................
славак — ......................................................................................................................................
юнак — .........................................................................................................................................

# *Кантрольная праца — Прыметнік* (I клас ліцэя)

**Імя і прозвішча**........................................................... **Нумар у дзённіку**........................

1. **Утвары прыналежныя прыметнікі:**

   ***Прыклад: Янка мае кватэру. Гэта Янкава кватэра.***

   На стале ляжаць кнігі дзеда. Гэта ........................................................................................
   На дрэве знаходзіцца гняздо бусла. Гэта ...........................................................................
   Бацька купіў сабе капялюш. Гэта ........................................................................................

2. **Ад дадзеных прыметнікаў утвары вышэйшую і найвышэйшую ступень параўнання.**

   дарагі чалавек — ........................................................................................................
   сціплая дзяўчына — .....................................................................................................
   добрае сэрца — ..........................................................................................................

3. **Да дадзеных слоў падбяры па адным прыметніку.**

   голас — ............................................... вяселле — ...............................................
   хлеб — ................................................. касцюм — ...............................................

4. **Ад дадзеных слоў утвары адносныя прыметнікі. Падбяры да іх назоўнікі.**

   інстытут — ..................................................................................................................
   машына — ...................................................................................................................
   тэлефон — ...................................................................................................................

5. **Якія прыметнікі не маюць ступеней параўнання?**

   ..............................................................................................................................

6. **Адзін з назоўнікаў у кожным словазлучэнні замяні прыметнікам.**

   аловак сястры — ...........................................................................................................
   гняздо вароны — ...........................................................................................................
   дом са шкла — ..............................................................................................................

**7. Адкажы на пытанні. Як завецца родная мова??**

французаў — ............................................................ чэхаў — ......................................................

**8. Дадзеныя словазлучэнні пастаў у родным і давальным склонах адзіночнага і множнага ліку.**

| Словазлучэнні | Адзіночны лік | | Множны лік | |
|---|---|---|---|---|
| | Родны | Давальны | Родны | Давальны |
| бацькава пісьмо | | | | |
| кароценькая спадніца | | | | |
| роднае дзіця | | | | |

**9. Утвары прыметнікі ад прыведзеных слоў. Падбяры да іх назоўнікі.**

швед — ......................................................................................................................................
Парыж — ..................................................................................................................................
сусед — ....................................................................................................................................

# *Кантрольная праца — Прыметнік* (I клас ліцэя)

**Імя і прозвішча**................................................................ **Нумар у дзённіку**..........................

1. **Утвары прыналежныя прыметнікі:**

   ***Прыклад: Янка мае кватэру. Гэта Янкава кватэра.***

   Бацька купіў канькі Міхасю. Гэта ..................................................................................
   Вечарам прыйшоў сябар брата. Гэта ...........................................................................
   Алесь купіў сабе камп'ютар. Гэта ...............................................................................

2. **Ад дадзеных прыметнікаў утвары вышэйшую і найвышэйшую ступень параўнання.**

   прыгожы хлопец — ..........................................................................................................
   драўляны стол — ...............................................................................................................
   цёплы дзень — ...................................................................................................................

3. **Да дадзеных слоў падбяры па адным прыметніку.**

   мост — ........................................................ шчасце — ....................................................
   работа — ................................................... джынсы — ..................................................

4. **Ад дадзеных слоў утвары адносныя прыметнікі. Падбяры да іх назоўнікі.**

   настаўнік — .........................................................................................................................
   цэглы — ...............................................................................................................................
   горад — ...............................................................................................................................

5. **Якія прыметнікі не маюць ступеней параўнання?**

   .................................................................................................................................................

6. **Адзін з назоўнікаў у кожным словазлучэнні замяні прыметнікам.**

   матэрыял з воўны — .........................................................................................................
   падарунак цёткі — ............................................................................................................
   ранец са скуры — ..............................................................................................................

**7. Адкажы на пытанні. Якую родную мову вывучаюць?**

швед — ........................................................ італьянец — ..............................................................

**8. Дадзеныя словазлучэнні пастаў у родным і давальным склонах адзіночнага і множнага ліку.**

| **Словазлучэнні** | **Адзіночны лік** | | **Множны лік** | |
|---|---|---|---|---|
| | Родны | Давальны | Родны | Давальны |
| бацькаў дом | | | | |
| доўгая каса | | | | |
| лясны дух | | | | |

**9. Утвары прыметнікі ад прыведзеных слоў. Падбяры да іх назоўнікі.**

красавік — ..................................................................................................................................
юнак — ........................................................................................................................................
француз — ...................................................................................................................................

# *Кантрольная праца — Назоўнік*
# (І клас ліцэя)

**Імя і прозвішча**................................................................ **Нумар у дзённіку**.........................

1. **Пастаў дадзеныя ніжэй словазлучэнні ў родным склоне множнага ліку.**

ветлівая дзяўчынка — ..........................................................................................................
поўная шклянка — ................................................................................................................
невялікая вёска — ................................................................................................................

2. **Пастаў назоўнікі, што ў дужках у патрэбным склоне.**

Яна любіць каву з (малако) ...............................................................................................
Ты п’еш ваду з (лімон) .........................................................................................................?
Агата вярнулася са (школа)..................................................................................................
Мая сястра любіць мяса з (рыс)..........................., а я з (бульба) ........................................
Ён ад (злосць) ........................................... ўвесь трасецца. Сёлета трава пажаўцела ад (гарачыня)............................................................................................................................
Мая маці працуе (стаматолаг) .............................................................................................
Парыж — сталіца (Францыя) ...............................................................................................
Ён жыве ў трохпакаёвай (кватэра) ......................................................................................
Сябар слухаў мяне з (цікавасць) .........................................................................................
Вучань стаіць ля (дошка) .....................................................................................................
Люблю пастаяць ля (магутны дуб) ......................................................................................
На ўсёй (мэбля) ............................, на (падлога) ................................ ляжаў пласт пылу.

3. **Устаў патрэбныя канчаткі.**

Бацьк............... падараваў кніг......... сын.............. .
Мы адпачывалі на мор.................. .
Брат расказаў сястр............. пра гэтае здарэнн.......... .

4. **Утвары назоўны склон множнага ліку ад дадзеных ніжэй назоўнікаў і абазнач у іх канчаткі.**

інструмент — .................................................................
жартаўнік — ...................................................................
чалавек — ......................................................................
паэт — ...........................................................................

# *Кантрольная па беларускай мове — Назоўнік* (І клас ліцэя)

**Імя і прозвішча ................................................ Нумар у дзённіку...........**

1. **Папоўні патрэбнымі літарамі.**

   Мінскае метр...... з'явілася ў 1984 год......... .
   Цікавае інтэрв......... з артыст.......... змешчана ў газе.......„Голас Радзімы".
   Брат расказаў сястр...... пра гэтае здарэнне.

2. **Пастаў ніжэйпададзеныя словазлучэнні ў творным склоне адзіночнага ліку.**

   вялікі абжора — ..........................................................
   маленькая чысцёха — ..........................................................
   страшэнная мурза — ..........................................................

3. **Ад ніжэйпададзеных назоўнікаў утвары назоўны склон множнага ліку. Абазнач канчаткі.**

   інструмент — ..........................................................
   жартаўнік — ..........................................................
   чалавек — ..........................................................
   паэт — ..........................................................

4. **Пастаў ніжэйпададзеныя словазлучэнні ў родным склоне множнага ліку.**

   ветлівая дзяўчынка — ..........................................................
   поўная шклянка — ..........................................................
   невялікая вёска — ..........................................................

5. **Пастаў назоўнікі, што ў дужках у патрэбным склоне.**

   Ядвіся любіць каву з (малако) ..........................................................
   Ён заўсёды п'е чай з (лімон) ..........................................................?
   Хлопец вяртаецца са (школа)..........................................................
   Я люблю мяса з (бульба)................................, а мая мама з (рыс) ..........................................
   Ён ад (злосць) .......................................................... пачырванеў.
   Лісты дрэў пажаўцелі на (яблыня)..........................................................
   Мая суседка працуе (стаматолаг) ..........................................................
   Парыж — сталіца (Францыя) ..........................................................

Ён жыў на другім (паверх) ............................... у чатырохпакаёвай (кватэра) ...........
............................................................................................................................................................. .
Сяброўка слухала мяне з (цікавасць) ........................................................................
Студэнтка стаіць каля (дошка) ....................................................................................
На (падлога) ............................................... было многа шэрага (пыл) ...................................

**6. Ніжэйпададзеныя словы спалучаюцца з назоўнікамі толькі ў давальным склоне. Складзі з імі сказы.**

званіць, падабацца, дзякаваць, верыць
.............................................................................................................................................................
.............................................................................................................................................................
.............................................................................................................................................................

**7. Дапоўні сказы па пытаннях, выкарыстоўваючы назоўнікі.**

Бацька забараніў (*каму?*) ...................................курыць.
Вучань адказвае (*каму?*) ....................................на яго пытанні.
Васіль расказаў (*каму? што? пра што?*)..................................................................................
.............................................................................................................................................................

**8. Назоўнік „маці" скланяецца:**

А) як назоўнікі рознаскланяльныя,
Б) мае толькі дзве формы,
В) не скланяецца.

**9. Папоўні сказ:**

Паказчыкамі родавай прыналежнасці наступных назоўнікаў з'яўляюцца
.......................................................................................................................................................
вядомы канферансье, вялікае дынга, шэрая кенгуру.

**10. Словы, што ў дужках, пастаў у родным склоне адзіночнага ліку.**

Кілаграм (цукар) .......................................
Кавалак (сыр) .............................................
Плантацыя (чай) .......................................
Запах (бензін) .............................................

**11. Адкажы на пытанні, ставячы назоўнікі , што ў дужках, у патрэбным склоне.**

Чыя гэта хустка? (сястрычка) ...........................................................................................
Каму сяброўка падаравала кнігу? (дзед) .................................................................
Каго ты спаткала на вуліцы? (Алесь) .........................................................................
Чым ты цікавішся? (камп'ютар) .......................................................................................
Аб чым ты марыш? (падарожжы) ..................................................................................

# *Кантрольная — Прыназоўнікі і злучнікі* (II клас ліцэя)

**Імя і прозвішча ................................................ Нумар у дзённіку...........**

**1. Папоўні сказы адпаведнымі прыназоўнікамі.**

Лес, пераважна дубовы стаяў .................... ўзгорку.
Круглае возера блішчэла....................ўзгоркам.
Прыгожы шлях сакаўной зеляніны цягнуўся .......................... саменькай вадою.
Сям-там пракідаліся высокія пышныя алешыны, а ............. суседстве ........... імі красаваліся дзве прыўдалыя хвоі.
Непадалёк ...... Люцынкі, у Тупальшчыне, .......старым могільніку побач ...... магіламі сялян спачывае беларускі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. ....... агароджай, на пагорку .......... кустоў бэзу, стаіць просты абеліск.
.......... вячэры ўсе пайшлі ..... вечарынку. ...... Новым годзе я пажадаў бы ўсім аптымістычнага настрою і ўпэўненасці.
Была якраз пара восені, неўзабаве ...... бабінага лета. Раз ...... тыдзень ..... нас заняткі ..... інфарматыцы. ................. школы хлопец задумаў разам ...... сябрам уладкавацца ........ працу ...... пажарнай ахове.
Закаханы хлопец сумуе .......... сваёй дзяўчыне. Моладзь на занятках ................. фізкультуры гуляла ..... шахматы. Лідачка села ......... пісьмовым сталом і пачала вучыцца ........ хіміі. Міхась ехаў....... машыне ..... шашы. Алесь успомніў.............. дзень нараджэння сваёй Нінкі.
Андрэй ..... ўсіх мудрэй. Балявалі, балявалі, ................ голыя сталі.
.................. паклону галава не балела нікому. Каса ........ камень наскочыла.

**2. Устаў патрэбныя злучнікі.**

Ён не толькі прачытаў усе кнігі, .......... і ўсё запомніў.
Спачатку былі розныя складанасці, ....... зараз усё добра.
Асабліва цікавяць яго малюнкі, .......... ён можа гадзінамі расказваць пра іх.
Павел зноў не меў .... сну, ..... спакою некалькі дзён.
Адзін .... пры месяцы робіць, ...... другі .... пры сонцы спіць.
Я незадаволены сабой, ..... апошні год навукай займаўся недастаткова.
Ён зрабіў восем памылак у дыктоўцы, ..... не паўтарыў правілаў.
У гэтых людзей няма грошай, ...... паехаць на экскурсію.
Хлопчык папрасіў толькі, ........ маці нічога не гаворыць.
Калі бацька рыбак, ....... і сын ходзіць глядзець на ваду.
Баязліваму ...... корч — мядзведзь.

# *Тэст з займенніка*
# (II клас ліцэя)

## I. Раскрый дужкі і пастаў займеннікі ў патрэбным склоне.

1. Віншую я (ты) ............ мой сябар.
2. Вясёлка піла ваду ў Нёмане а (над я) ................ у промнях сонца — дожджык залаты.
3. Мы купілі (сябе) ............. шахматы.
4. Мой бацька вазьмі ты з (сябе) ............ (я) .................
5. То гавары (што пра абы) ....................... то маўчы.

## II. Утвары словазлучэнні ўжываючы займеннікі ў патрэбных склонах.

1. дзякаваць, вы — .............................................
2. паказаць, ты — ................................................
3. шанаваць, яна — ............................................
4. гаварыць, аб, ён — ...........................................
5. бачыць, яны — ................................................
6. трымаць, пры, сябе — ....................................

## III. Складзі сказы з трыма словазлучэннямі з II практыкавання.

1. ..........................................................................................................................................
2. ..........................................................................................................................................
3. ..........................................................................................................................................

## IV. Напішы правільна.

1. Не (калькі) дзён быў дождж.
2. То гаварылі (што пра абы)............................то маўчалі.
3. (Ні) хто (не) спіць.
4. Хто (сь) ішоў, (не) хта ехаў.

## V. Праскланяй займеннік”свой”.

1. ...................................................................................
2. ...................................................................................
3. ...................................................................................
4. ...................................................................................
5. ...................................................................................
6. ...................................................................................

**VI. Перакладзі.**

1. Nie lubię ciebie.
   ..............................................................................................................
2. Czasem siebie nie poznaję.
   ..............................................................................................................
3. Nie było mnie dzisiaj w szkole.
   ..............................................................................................................

**VII. Займеннікі пастаў у множным ліку.**

1. мяне — .....................................
2. майго — ...................................
3. сам — ........................................
4. самы — .....................................
5. усяго — ....................................

**VIII. Падбяры назоўнікі ў множным ліку да прыдуманых займеннікаў у VII практыкаванні.**

1. ........................................................
2. ........................................................
3. ........................................................
4. ........................................................
5. ........................................................

**IX. Напішы правільна.**

1. хто (сьці) — ................................................
2. абы (хто) — ................................................
3. чый (небудзь) — .....................................
4. што (нішто) — ..........................................
5. ні (чый) — ....................................................
6. сякі (такі) — ................................................

# *Кантрольная праца — Прыназоўнікі, злучнікі* (II клас ліцэя)

**Імя і прозвішча**................................................................. **Нумар у дзённіку**..........................

1. **Закончы сказы адпаведнымі прыназоўнікамі і словамі да выкарыстання: валейбол, радыё, ноч, пошта, тэлевізар.**

   Мы слухалі канцэрт .................................
   Трэба паслаць пісьмы .................................
   Учора паказвалі матч ................................
   У нашым горадзе адбываліся спаборніцтвы ...........................................
   Рыхтуючыся да экзаменаў, мы не спалі ...................................

2. **Устаў патрэбныя па сэнсе прыназоўнікі.**

   Я адпачывала ........... поўдня ....... берагам рэчкі.
   Летам я паеду ....... Варшаву.
   ......Беларусі жывуць мае сябры.
   Алесь працаваў ......... заводзе.
   Пасля трох гадоў вучобы ...... ліцэі, я паступлю ...... ўніверсітэт.
   Мой меншы брат прыйшоў ...... школы.
   Заўтра ў нас кантрольная ....... гісторыі.
   Хлопец устаў ........... стала, прайшоў да акна і ўпэўніўся, што яны зачынены шчыльна.
   Вера звоніць ...... тэлефоне.
   У магазіне знаходзіцца аддзел ....... абслугоўванні інвалідаў.
   Хлопец едзе ..... веласіпедзе. Бацькі ідуць .... работу.
   Сцюардэса ляціць ...... самалёце.
   Ён прыехаў ..... мяне ...... машыне.
   Хворы прыйшоў ...... доктара.
   Я глядзела гэты фільм ..... тэлебачанні.
   Сям'я збіраецца ...... святочным сталом.
   Жанчына ішла .............. воза.

3. **Прыназоўнікі на, у, па ўжываюцца са склонамі:**

   а) давальным ...........................................................................................................
   б) месным ...............................................................................................................
   в) творным ..............................................................................................................

   **Свой адказ пацвердзі прыкладамі.**

**4. Папоўніце, „за" напішыце разам або асобна.**

Настаўнік пахваліў Алеся (за тое)........................ сачыненне.
Павел адвярнуўся, (за тым) ............................... пайшоў у кірунку хаты.
Да горада было яшчэ далёка, але (за тое) .........................ехаць туды было цікавей. Сонца схавалася (за тым) ......................... далёкім лесам.

# *Кантрольная праца — Літаратура пачатку XX стагоддзя* **(II клас ліцэя)**

**Імя і прозвішча**........................................................................ **Нумар у дзённіку**...............................

**Калі ласка, адкажы згодна з фактамі поўнымі сказамі на пытанні.**

Якая першая беларуская газета выходзіла ў пачатку XX ст.?

.......................................................................................................................................

Калі і дзе выйшаў яе першы нумар?

.......................................................................................................................................

Чаму ўлады забаранілі яе выдаваць?

.......................................................................................................................................

.......................................................................................................................................

Колькі нумароў яе выйшла?

.......................................................................................................................................

Якая іншая газета выдавалася пасля забароны друку першай газеты?

.......................................................................................................................................

У якім горадзе яна выдавалася?

.......................................................................................................................................

Калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка? Напішы поўную дату, а лічбы запішы словамі.

.......................................................................................................................................

.......................................................................................................................................

Якія выдавецкія таварыствы паўсталі ў пачатку XX стагоддзя і ў якіх гадах? Падай два прыклады.

.......................................................................................................................................

.......................................................................................................................................

Якія часопісы выдаваліся ў пачатку XX стагоддзя і ў якіх гадах? Падай два прыклады.

.......................................................................................................................................

У якім годзе ўзнік першы нацыянальны прафесійны беларускі тэатр і хто быў яго кіраўніком?

.......................................................................................................................................

Якую назву атрымаў пачатак XX ст. у беларускай літаратуры?

.......................................................................................................................................

# Разуменне са слыху — паэма Янкі Купалы „Адплата кахання”

***I. Вучні чытаюць ніжэйдадзеныя пытанні.***

***II. Настаўнік паясняе пытанні (калі існуе такая патрэба).***

***III. Настаўнік голасна чытае вучням паэму (або ўключае яе з кампакт-дыска, напр. „З васільковых крыніц” аўтарства Іаланты Грыгарук).***

***IV. Вучні абазначаюць правільны адказ.***

**1. Героямі паэмы з'яўляюцца:**

А) паненка Зося, хлопец Яська, брат Ляўчынскі
Б) шляхцянка Зося, мужык Янка, пан Лаўчынскі
В) стары Янка, палясоўшчык Лаўчынскі, бабка Зося

**2. Па бацьку хлопца звалі:**

А) Прынада
Б) Прывада
В) Прыляда

**3. Дзе жыў хлопец?**

А) у разваленай пуні
Б) у новай гонтам выкрытай хаце
В) у старэнькай пахіленай хаце

**4. З кім жыў герой?**

А) з жонкай і сям'ёю
Б) са старэнькай маткай
В) з сёстрамі і з маткай

**5. Якія рысы акрэсліваюць хлопца?**

А) прыгожы, сумленны, працавіты
Б) благі, бясстрасны, нясталы
В) уседлівы, фармаліст, безабаронны

**6. Якія рысы акрэсліваюць дзяўчыну?**

А) нуднаватая, сухая, тонкая
Б) прыгожая, стройная, вясёлая
В) упартая, настойлівая, няўмольная

**7. Якія рысы акрэсліваюць пана?**

А) нячулы, адважны, добрасумленны
Б) разважлівы, працавіты, аб'ектыўны
В) багаты, помслівы, подлы

**8. Дзе сустракаліся закаханыя?**

А) у лузе
Б) у садзе
В) у лесе

**9. Дзе быў хлопец у няшчасную ноч?**

А) паехаў у Мінск
Б) працаваў у пана
В) спаў у пуні

**10. Што ноччу зрабіў брат паненкі?**

А) прызнаўся ў каханні
Б) пайшоў на прагулку ў лес
В) падпаліў адрыну

**11. Хто згарэў у пажары?**

А) бабка Зося
Б) пан Ляўчынскі
В) Янка Лявончык

**12. Чаму ў страшную ноч маладыя не спаткаліся?**

А) бо раней пасварыліся
Б) бо былі яны змучаныя
В) бо паненка паехала ў Мінск

**13. Чаму на другі дзень раніцай Зосі не было ў пасцелі?**

А) купалася ў рэчцы
Б) пайшла ў поле
В) скончыла жыццё самагубствам

**14. Што здарылася з братам паненкі?**

А) загінуў ад няшчаснага выпадку
Б) стаў добрым і мілым
В) ашалеў, звар'яцеў

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Іаланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі,
Яўгенія Таранта

**Карэктура:** Віталь Луба
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі

**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Intropack Jerzy Iwaniuk

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji